7 сакавіка 2014 | № 9 (378)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Шаноўныя чытачы! Шчыра віншуем вас са святам Вясны! Здароўя, радасці і шчасця!**

ISSN 2218-2144







# Волат духу і слова

**Тысячы вачэй у слязах. Надрыўныя ажно да плачу словы святароў. Званы над Чырвоным касцёлам у Мінску. Мора кветак і вянкоў. Увесь беларускі свет 4 сакавіка праводзіў у вечны шлях свайго выбітнага сына, Народнага паэта Рыгора Барадуліна.**

Генадзь КЕСНЕР



Фота Сяргея Балая, gazetaby.com

Беларусь развітвалася не проста з літаратарам. Але з тым, хто рабіў сваю краіну, свой народ адметнымі ў кагорце цывілізаваных краінаў і народаў сусвету праз сваю творчасць, праз свае грамадзянскія і папросту чалавечыя ўчынкі. Але, перш за ўсё, праз сваё Слова. Паэта Божай міласцю, філосафа беларускага жыцця.

І гэта было зразумела адразу зранку, а палове на дзясятую, калі труну з целам дзядзькі Рыгора прывезлі ў Чырвоны Касцёл на Плошчы Незалежнасці ў Мінску. Людзі падыходзілі і падыходзілі. З кветкамі і вянкамі. Хто асабіста ведаў Рыгора Іванавіча, і хто хоць раз сутыкнуўся з ягонай творчасцю. І хто проста чуў пра яго.

Нешта кепскае пра Барадуліна сказаць не змагла нават улада, бо яна ў сваёй дзіўнай падсвядомасці адчувала маштаб асобы Паэта і яго вартасці для краіны. Хоць уладу гэтай краіны, мякка кажучы, дзядзька Рыгор не ўхваляў. Але ж прысутнасць чыноўнікаў, няхай не самага высокага гатунку, на развітанні мела месца быць. Як і вянкі ад самага высокага чыноўніцтва.

Кветкі, вянкі, слёзы. Слёзы простых вернікаў розных канфесіяў, слёзы палітыкаў розных арыентацый, слёзы журналістаў, слёзы святароў. Сум і смутак тысяч беларусаў — ад малых да старых, што сабраліся ў касцёле і вакол, што не змаглі прыехаць і сачылі за развітаннем па інтэрнэту.

Усе амаль чатыры гадзіны, пакуль труна з целам нябожчыка пакоілася перад алтаром. Пакуль ішлі набажэнствы (па чарзе) у адпраўленні іерархаў уніяцкай (грэка-каталіцкай) і рыма-каталіцкай цэркваў.

Ад апошняй у вечнае жыццё Рыгора Барадуліна адпраўляў мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч. Святы Айцец ледзь трымаўся, каб не разрыдацца над труною Барадуліна, голас яго дрыжэў, словы даваліся яму з цяжкасцю.

«Няхай брамы вечнасці, дзякуючы нашай малітве, нашай зычлівасці адчыняцца перад табою, дзядзька Рыгор. Мы з табой не развітваемся, мы кажам, што мы цябе спаткаем, спаткаем у Божым Валадарстве», — завяршыў сваё казанне айцец Кандрусевіч.

Труну з Рыгорам Барадуліным вынеслі з будынку Чырвонага касцёла і ўстанавілі на подыюме. Грымнулі касцёльныя званы. Людзі схілілі свае галовы перад адным з апошніх класікаў беларускай літаратуры.

«Купала і Багдановіч назаўсёды застануцца па праву першых, але ўжо сёння відавочна, што Рыгор Барадулін — роўны сярод роўных. Роўных яму няма сярод сучаснікаў, ён адзіны, хто здолеў увабраць у сабе хіба ці не ўсю беларускую спрадвечнасць, увесь народны дух. Усім беларускім светам памолімся за нацыянальнага вялікага паэта, аднаго з найгодных сыноў беларускае зямлі. Дзякуй Богу, што ён даў нашай зямлі гэткага сына, вечная памяць Рыгору Барадуліну», — сказаў, ледзь стрымліваючы слёзы, над труною паэт і блізкі сябра дзядзькі Рыгора Уладзімір Някляеў.

Потым катафалк і аўтобусы з людзьмі накіраваліся ва Ушачы. На надмагіллем выступілі пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Барыс Пятровіч, паэт Уладзімір Някляеў. Усе прысутныя праспявалі «Магутны Божа».

Дзядзька Рыгор атрымаў свой апошні прытулак побач з любай матуляй Кулінай Андрэеўнай ва Ушачах.

Згасла мегазорка на беларускім зямным небасхіле. Але хутка яна запаліцца зноўку і будзе асвятляць нам наш беларускі шлях.

7 сакавіка 2014 | № 9 (378) Новы Час

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БЯРОЗА. Пікет у Дзень Волі

**Бярозаўскія дэмакратычныя актывісты плануюць правесці пікет у Дзень Волі.**

Пікет прысвечаны не толькі адзначэнню угодкаў абвяшчэння БНР, кажа адзін з арганізатараў пікету праваабаронца Сяржук Русецкі, але і набалелым тэмам, пра якія трэба публічна гаварыць. Удзельнікі пікета збіраюцца выказаць пратэст супраць увядзення расійскіх войск ва Украіну, а таксама супраць размяшчэння ваенных расійскіх баз на тэрыторыі нашай краіны. Нявырашанай застаецца і праблема палітвязняў.

Бярозаўскія праваабаронцы звярнуліся ў адпаведныя органы за заключэннем дамоў на абслугоўванне масавага мерапрыемства.

Звычайна мясцовыя ўлады Бярозы адмаўляліся даваць дазволы на публічныя акцыі, матывуючы тым, што арганізатары не мелі заключаных дамоў з бальніцай, міліцыяй або ЖКГ. Аднак у снежні мінулага года праваабаронцы атрымалі адказ з райвыканкама на свае скаргі наконт немагчымасці заключыць дамовы. У адказе намеснік старшыні райвыканкама Яўген Тарасюк паведаміў, што пытанні па дамовах урэгуляваны, і яны будуць заключацца.

**spring96.org**

### РЭЧЫЦА. Спалохаліся кандыдата

**Рэчыцкае радыё «Дняпровец» не пагаджаецца без цэнзуры прапускаць у эфір зварот кандыдата ў дэпутаты, прадпрымальніка, каардынатара кампаніі «Гавары праўду» Алега Шабетніка.**

«Запісаць на радыё мяне запісалі, але папярэдзілі, што аддадуць у раённую выбарчую камісію, а тая — у Цэнтрвыбаркам. Будуць шукаць нейкія парушэнні.

У сваім выступе я распавёў пра «Народны рэферэндум», ініцыяваны кампаніяй «Гавары праўду», БНФ і рухам «За Свабоду», пра выбарнасць старшыняў выканкамаў, а таксама прэзідэнта — не больш як два тэрміны. Распавядаў і пра вяртанне да бясплатнай адукацыі. Відаць, гэта ўсё і палохае і радыё, і выбарчыя камісіі», — сказаў службе маніторынгу ГА «БАЖ» кандыдат у дэпутаты Рэчыцкага райсавета Алег Шабетнік.

Шабетнік вылучаўся і кандыдатам у дэпутаты Гомельскага абласвета па Холмецкай выбарчай акрузе №52. Аднак камісія не зарэгістравала яго, і цяпер у згаданай акрузе адзіным кандыдатам засталася начальніца абласной падатковай інспекцыі.

**Служба маніторынгу ГА «БАЖ»**

### БАБРУЙСК. Акцыя супраць расійскай агрэсіі

**У Бабруйску актывісты БХД распачалі бестэрміновую акцыю пратэсту супраць агрэсіі Расіі ва Украіне. Пра гэта паведаміла каардынатар аргкамітэту БХД па Магілёўскай вобласці Таісія Кабанчук.**

Актывісты 3 і 4 сакавіка з самай раніцай павязалі сабе павязкі з надпісам «Мы супраць вайны» і накіраваліся ў такім выглядзе па сваіх справах, хто ў грамадскім транспарце, а хто пешшу. «Такім чынам мы хочам праінфармаваць жыхароў гораду пра сваю грамадскую пазіцыю, пра тое, што мы супраць вайны, якая можа абярнуцца катастрофай і вялікімі чалавечымі ахвярамі», — адзначыла Таісія Кабанчук.

Увечары 3 сакавіка Дэмакратычная рада Бабруйска прыняла зварот, у якім выказалася па сітуацыі ў суседняй краіне.

Актывісты БХД збіраюцца працягваць антываенную акцыю да таго часу, пакуль сітуацыя ва Украіне не вырашыцца.

**Прэс-служба БХД**

### БАРАНАВІЧЫ. За пікет салідарнасці — пратакол

**У Баранавічах ля кінатэатра «Кастрычнік» 4 сакавіка грамадскі актывіст Уладзімір Гундар правёў адзіночны пікет салідарнасці з украінскім народам.**

Актывіст з блакітна-жоўтым сцягам на плячах разгарнуў каляровы плакат «Пуцінскія банд-агрэсары, гэть з Украіны, прэч з Беларусі». Гэта прыцягнула ўвагу многіх мінакоў. Хтосьці выказваў пікетоўшчыку сваю падтрымку, але нярэдка ў яго бок чуліся і негатыўныя словы.

Хвілін праз 10 пасля пачатку пікета да Уладзіміра падышлі супрацоўнікі міліцыі. Праверыўшы дакументы, яны пайшлі далей. Аднак праз некаторы час міліцыянеры вярнуліся назад і папрасілі Уладзіміра скруціць плакат. Яны выклікалі міліцэйскую патрульную машыну і адвезлі Уладзіміра Гундара ў ГАУС. Тут быў складзены на яго адміністрацыйны пратакол, пасля чаго грамадскі актывіст быў адпушчаны дадому.

**spring96.org**

# Зноў на суткі

**Арыштаваныя за акцыю ў падтрымку Украіны 2 сакавіка Зміцер Дашкевіч і Яўген Ціханаў атрымалі 12 сутак. Сяргей Фінькевіч — 10 сутак.**

Таццяна ШАПУЦЬКА

Судовыя працэсы над Змітром Дашкевічам, Сяргеем Фінькевічам ды Яўгенам Ціханавым адбыліся 3 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска. Затрыманых актывістаў абвінавацілі ў парушэнні артыкула 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі) Адміністрацыйнага кодэкса. На Яўгена Ціханава быў складзены і другі пратакол — за дробнае хуліганства.

Сустаршыня «Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч у судзе паведаміў, што ў дарозе ад ізалятара часовага ўтрымання да суду яго збілі супрацоўнікі міліцыі. Паводле словаў Дашкевіча, калі ён адмовіўся сядаць на задняе сядзенне міліцэйскай машыны, дзе знаходзіліся аўтамабільныя шыны і месца для людзей не засталося, супрацоўнік міліцыі Чарняўскі кінуў яго на зямлю, пачаў біць нагою, разбіў акуляры. Пасля гэтага Дашкевічу надзелі кайданкі. З гэтай нагоды былы палітвязень падаў тэрміновую скаргу ў Следчы камітэт.

За пікет ля амбасады Расіі 2 сакавіка ў Мінску былі затрыманы 23 удзельнікі акцыі і каля 10 журналістаў. Усіх затрыманых, акрамя Змітра Дашкевіча, Сяргея Фінькевіча і Яўгена Ціханава, вызвалілі. На грамадскую актывістку Ніну Багінскую склалі адміністрацыйны пратакол, але адпусцілі да суду дамоў.

# Каго лічыць палітвязнем

**У сталічнай «Арт-сядзібе» 3 сакавіка прайшоў круглы стол на тэму «Палітычныя зняволеныя: падыходы праваабаронцаў. Крытэрыі».**

Генадзь КЕСНЕР

У абмеркаванні ўзялі ўдзел старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта Алег Гулак, прадстаўнікі Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч, Таццяна Равяка і Уладзімір Лабковіч, кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі Алена Танкачова.

У дыскусіі ўдзельнічалі таксама лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, кіраўнік Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павал Севярынец і Віталь Рымашэўскі.

Праблема, каго лічыць у Беларусі палітычным вязнем, дыскутуецца даволі даўно. Еўрапейскія палітыкі называюць адну колькасць, тутэйшыя палітыкі — другую, праваабаронцы — сваю. Для вызначэння крытэрыяў, каго варта лічыць у Беларусі палітзняволенымі, яшчэ ў кастрычніку на III Беларускім праваабарончым форуме ў Вільні было прэзэнтавана Кіраўніцтва па вызначэнні паняцця «палітычны вязень» — у цэлым даволі складаны для разумення нават спецыялістамі дакумент.

Яе паведаміла Таццяна Равяка, гэтае Кіраўніцтва было распрацавана групай праваабаронцаў з Азербайджану, Беларусі, Грузіі, Літвы, Польшчы, Расіі ды Украіны Эмілем Адэльханавым, Інтыгам Аліевым, Ганнай Бараноўскай, Людмілай Вацковай, Ганнай Герасімавай, Валянцінам Гефтэрам, Алегам Гулакам ды іншымі вядомымі экспертамі. Мэтаю дакумента ёсць уніфікацыя падыходаў у дзейнасці праваабарончых арганізацыяў па вызначэнні і выкарыстанні паняцця «палітвязень».

Па словах украінскага праваабаронцы Уладзіміра Ягорскага, які таксама ўдзельнічаў у «круглым стале», паняцце «палітвязень» усё часцей сустракаецца ў міжнародных дакументах, СМІ, справаздачах нацыянальных і міжнародных арганізацыяў. Але ж у гэтае паняцце ўключаецца розны сэнс. Пры распрацоўцы згаданага Кіраўніцтва выкарыстоўваўся досвед Савета Еўропы, міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Amnesty International» і нацыянальных праваабарончых арганізацыяў розных краінаў.

З пункту гледжання беларускіх праваабаронцаў, сёння ў нашай краіне ў адпаведнасці з крытэрыямі Кіраўніцтва налічваецца 11 палітвязняў. Сярод іх — тры прызнаных «Amnesty International» «вязня сумлення» — гэта палітык Мікалай Статкевіч, кіраўнік «Вясны» Алесь Бяляцкі і маладафронтавец Эдуард Лобаў. 11 сакавіка спіс палітвязняў паменшыцца — на волю выйдзе асуджаны за «спробу шпіянажу» Андрэй Гайдукоў, паведаміла Таццяна Равяка.

# Да 500-годдзя перамогі пад Оршай

**Зацверджаны склад аргкамітэта па святкаванні 500-годдзя Вялікай перамогі пад Оршай, яго эмблема і падрыхтаваны папярэдні спіс святочных мерапрыемстваў.**

Арцём ЛЯВА

У аргкамітэт уваходзяць дактары гістарычных навук Леанід Лыч, Аляксандр Краўцэвіч, Юрась Бохан, Міхась Гурын, сябра Беларускага саюза мастакоў Мікола Купава, палітолаг Алесь Жучкоў, старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч, бард Андрэй Мельнікаў, сябра Рады ЗБС «Бацькаўшчына» Валеры Герасімаў, пісьменнік Усевалад Сцебурака, пратаіярэй Мінскай царкоўнай акругі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Леанід Акаловіч. Ачоліў аргкамітэт доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч.

У межах адзначэння 500-гадовага юбілею перамогі пад Оршай запланаваныя правядзенне міжнароднай навуковай канферэнцыі, выставы Беларускага саюза мастакоў і шэраг іншых мерапрыемстваў у Беларусі, Літве і Польшчы. Як паведаміў намеснік старшыні аргкамітэта мастак Мікола Купава, цягам года пад эгідай аргкамітэта будуць выдавацца кнігі, тэматычныя паштоўкі, плакаты, календары ды выпускацца іншая сувенірная прадукцыя.

Аргкамітэт будзе дабівацца ад уладаў Оршы ўганаравання памяці гетмана ВКЛ князя Канстанціна Астрожскага і герояў Аршанскай бітвы Юрыя Радзівіла і Івана Сапегі ў гарадской тапаніміцы. У прыватнасці, будзе прапанавана назваць імёнамі герояў цэнтральныя вуліцы горада, а таксама паставіць помнік Канстанціну Астрожскаму. Адпаведныя лісты ўжо падрыхтаваныя ў Аршанскі раённы Савет дэпутатаў.

Сябры аргкамітэта таксама падрыхтавалі ліст міністру абароны Юрыю Жадобіну з прапановай Мінскую Суворaўскую вайсковую вучэльню перайменаваць у Мінскі вайсковы каледж імя Канстанціна Астрожскага; адной з брыгад Беларускай Арміі надаць імя Канстанціна Астрожскага, адлюстраваць гэта на нагрудных значках і шаўронах; ад імя Міністэрства абароны выйсці з ініцыятывай заснавання Ордэна Канстанціна Астрожскага.

Аргкамітэт з удзячнасцю гатовы прыняць любую дапамогу на падрыхтоўку чыннага адзначэння важнейшай для выспявання беларускай нацыі гістарычнай даты. Арганізацыі, фірмы, прадпрыемствы, супольнасці, якія выступяць фундатарамі, а таксама індывідуальныя ахвярадаўцы будуць адзначаны аргкамітэтам. Па арганізацыйных пытаннях можна звяртацца па тэлефонах: (+375 29) 5513236 (Мікола Купава) і (+375 29) 7090992 (Алесь Жучкоў).

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Займіцеся сваімі праблемамі!

**Што ні кажы, а ад украінскіх падзеяў нам нікуды не падзецца. Дзве бліжэйшыя суседкі — Украіна і Расія — амаль дайшлі да ваенных дзеянняў. А чубы трашчаць у беларускіх грамадзян.**

Сяргей САЛАЎЁЎ



Вайна — гэта кепска. Але ў нас свае правілы і свае парадкі. Таму калі ты супраць вайны — усё роўна падавай заяўку на мітынг за 15 дзён. Некаторыя маладзёны гэтай заявы не падалі. І ў нядзелю за спробу правядзення антываеннага пікету ля расійскага пасольства ў Мінску было затрымана больш за 20 чалавек, у тым ліку і журналістаў. Затрыманы быў нават прэс-аташэ пасольства Аляксандр Пчалінцаў — беларускія міліцыянты палічылі яго за дэманстранта.

Затрыманых потым судзілі. За спробу правесці акцыю супраць расійскай агрэсіі ў Украіне адзін з лідараў «Маладога фронту», былы палітвязень Зміцер Дашкевіч і ягоны паплечнік Яўген Ціханаў асуджаныя да 12 сутак адміністрацыйнага арышту кожны, актывіст арганізацыі Сяргей Фінькевіч — да 10 сутак.

Сапраўды, не трэба напаляць абстаноўку. Беларусь з Украінай нават у гэтыя няпростыя часы не толькі не збіраецца сварыцца, але і нарошчвае супрацоўніцтва. Прычым так, каб грамадзянам абедзвюх краін лягчэй было.

Напрыклад, з 3 сакавіка памежнае афармленне пасажыраў, якія едуць туды-назад на цягніку «Мінск — Кіеў» павінна было праводзіцца ў Мінску і Кіеве, без начнога прыпынку на мяжы.

Не ведаю, можа, 3 сакавіка так і было. Але ўжо 4 сакавіка аўтар гэтых радкоў у гэтым цягніку ўсё роўна ніякага кантролю ў Мінску не зазнаў — усе мытныя працэдуры праходзілі на мяжы ноччу цягам гадзіны. Праўда, гэтую гадзіну «з'ела» розніца ў часе паміж Украінай і Беларуссю — у ўкраінцаў зімовы час, гадзіннік трэба пераводзіць назад, але ж... Навошта такое абвяшчаць, каб потым не зрабіць?

І яшчэ цікава, што будуць рабіць тыя пасажыры, якія садзяцца ці сыходзяць з яго, напрыклад, у Гомелі ці Чарнігаве? Там таксама кантроль будзе на вакзалах, альбо такіх будуць саджаць у асобныя вагоны?

Маленькія непрыемнасці напаткалі беларусаў не ад Расіі з Украінай, а ад родных бюракратычных органаў. Калісь рымляне патрабавалі «хлеба і відовішчаў». З хлебам праблемаў няма, а вось «відовішчаў» крыху паменела. У Беларусі з 1 сакавіка прыпынены паказ каля 20 тэлеканалаў у сувязі з адсутнасцю дазволаў на іх трансляцыю на тэрыторыі Беларусі. Атрымаць падаўжэнне ліцэнзіі не паспелі такія папулярныя тэлеканалы, як RTVi, «Наша любімае кіно», Discovery chanel, Sony Entertainment, Sony SCI-FI, TLC, Sony turbo, Discovery World, Animal Planet, Mezzo, «Шансон ТБ» і некаторыя іншыя каналы.

Справа ў тым, што напрыканцы мінулага года былі прынятыя змены ў парадак атрымання дазволаў на распаўсюд замежных СМІ на тэрыторыі Беларусі. Той, хто не паварушыўся і не ўзяў пад увагу беларускую бюракратычную машыну, не атрымаў новую ліцэнзію. Але ў іх яшчэ ёсць магчымасць выправіць сітуацыю і аформіць новыя дазволы на вяшчанне.

Менавіта з-за адсутнасці відовішчаў беларускія грамадзяне пачалі займацца глупствам. «Тэлек адключылі, што ж рабіць?» — сказалі два маладзёны, і ў філіяле аднаго з мінскіх банкаў пакінулі запіску з пагрозай падарваць яго. «28 лютага ў 14.00 да міліцыянта аддзела дэпартамента аховы Савецкага раёна Мінска звярнулася супрацоўніца філіяла банка па вул. Кульман і патлумачыла, што на стойцы перад касавым акном выявіла запіску з тэкстам: «Я падарву гэты банк! Заўтра, не жартую», — паведаміла ГУУС Мінгарвыканкама.

Супрацоўнікамі Савецкага РУУС і групай разміравання былі эвакуіраваны 10 наведвальнікаў і 8 супрацоўнікаў банка, у ходзе абследавання выбуховых прылад выяўлена не было. Праз некалькі гадзін былі затрыманыя падазраваныя — два маладыя чалавекі 1993 і 1996 гадоў нараджэння, студэнты БНТУ і Мінскага дзяржаўнага аўтамеханічнага каледжа. Як растлумачылі самі затрыманыя, запіска была пакінутая імі з мэтай праверкі прафесіяналізму міліцыі ў пошуку аўтара тэксту.

То бок, калі ў тэлевізары няма любімага баявіка ці шпіёнскага серыялу, маладзёны паспрабавалі зняць сваё кіно — з масоўкай у выглядзе натуральных міліцыянтаў. Праўда, на ролю Бруса Уіліса нікога не знайшлі. Але здымкі аматарскага кіно выходзяць занадта дарагімі. Гэтыя дзеянні, паведамляе міліцыя, могуць кваліфікавацца як «заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы» — да сямі гадоў пазбаўлення волі. Акрамя таго, мясцовых Таранціна чакаюць немалыя грашовыя траты ў выглядзе кампенсацыі кошту работ дзяржорганаў па ліквідацыі пагрозы.

Суд, хутчэй за ўсё, дасць ім тэрмін з магчымасцю працаваць, бо як жа безграшовыя студэнты інакш будуць аплочваць выдаткі групы размінавання? І працаваць ім прыйдзецца доўга і напружана. Як паведаміла старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама Жанна Рамановіч, на мінскіх прадпрыемствах пачаліся праблемы з выплатай заробкаў. Запазычанасць па выплаце заработнай платы маецца на шасці мінскіх прадпрыемствах: СП «Унібокс», СТАА «Транспортпартнер», ЗП «ЛеГранд», ААТ «Мінсксельбуд», ААТ «Мантажлегмаш» і РУП «Белсельгазэнерга». Цяжкасці з выплатай заробку адчувалі ААТ «Белліфт», ААТ «Ліфтсервіс» і ААТ «Белгран», якое ўваходзіць у склад ДВА «Мінскбуд».

**Заробак беларусаў перастаў расці і «застапарыўся» на ўзроўні 5,3 мільёна рублёў. Але у бюджэтных арганізацыях у студзені ён склаў 4 мільёны 900 тысяч рублёў**

У сувязі з гэтым Мінгарвыканкам просіць Мінпрацы зрабіць больш жорсткім адказнасць наймальнікаў за несвоечасовую выплату або нявыплату заробку, і разглядзець пытанне выплаты наймальнікам няўстойкі за кожны дзень затрымкі заработнай платы.

У мінулым нумары мы пісалі пра тое, што заробак беларусаў перастаў расці і «застапарыўся» на ўзроўні 5,3 мільёна рублёў. Але, як высветлілася, так не ва ўсіх. Па словах Рамановіч, сярэднямесячны заробак у бюджэтных арганізацыях у студзені склаў 4 мільёны 900 тысяч рублёў. То бок, «бюджэтнікі» да сярэдняга заробку нават у Мінску не дацягваюць!

Так што трэба займацца сваімі праблемамі, а не ў тэлек на Расію з Украінай глядзець.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Уладзімір Макей



**Кіраўнік беларускага МЗС, фактычна выступіў у падтрымку ўкраінскага народа.**

У інтэрв'ю агенцтву навінаў BNS (Baltic News Service) Макей заявіў, што Украіна «для нас з'яўляецца вельмі важным партнёрам і ў палітычным, і ў гандлёва-эканамічным, і ў гуманітарным сэнсе». «У нас з Украінай велізарны тавараабарот, дзесьці каля 7 мільярдаў долараў. Нас звязваюць цесныя гуманітарныя, чалавечыя сувязі. Як я ўжо сказаў у Латвіі, мы, калі кажам на беларускай мове, а ўкраінцы размаўляюць на ўкраінскай мове, выдатна разумеем адзін аднаго без перакладчыкаў. І мы зацікаўленыя ў тым, каб Украіна засталася стабільнай, тэрытарыяльна цэласнай, незалежнай дзяржавай, каб там не было таго, што адбываецца сёння», — сказаў Макей.

«Што тычыцца прызнання/непрызнання дзеючых органаў улады зараз, мы вельмі спакойна, але вельмі асцярожна глядзім на ўсё, што адбываецца. На жаль, тая інфармацыя, якая паступае з Украіны, кажа пра тое, што з перамогай так званага «Майдана» абсалютна нічога не скончылася. Гэта яшчэ, магчыма, толькі пачатак. Трэба старанна прааналізаваць і з нацыянальнага, і з міжнародна-прававога пункту гледжання, і з пункту гледжання легітымнасці цяперашняга складу ўрада. Мы не адмаўляемся ад кантактаў з імі, наадварот, шэраг асобаў, якія ўваходзяць у склад новага ўрада, мы ведаем і кантактавалі з імі і раней. І маем намер падтрымліваць нармальныя сувязі і надалей», — дадаў Макей.

Гэта значыць, што дэ-факта Беларусь мае намер працаваць з тымі ўладамі, якія існуюць ва Украіне. Інакш як падтрымкай Украіны гэтую заяву не назавеш.

## Меліціна Станюта



**На міжнародным турніры серыі Гран-пры па мастацкай гімнастыцы лідар зборнай Беларусі Меліціна Станюта заваявала бронзавы медаль.**

Гэты медаль тым больш пачэсны, што гэта адзіная ўзнагарода беларускіх грацый.

Лепшымі ў гэтай намінацыі былі расійскія спартсменкі — золата ў Маргарыты Мамун, а срэбра дасталося Марыі Цітовай.

Нагадаем, што сезон 2013 года для Станюты быў вельмі выніковым — яна прыняла ўдзел амаль ва ўсіх этапах Кубка свету і турнірах серыі Гран-Пры. У Тарту яна тройчы станавілася першай (мяч, булавы, стужка) і двойчы другой — у мнагабор'і і ў практыкаванні з абручом. Маскоўскі этап Гран-Пры Меліціна прапусціла, на наступным, у Халоне, заваявала залаты медаль за практыкаванне з абручом і два срэбных (булавы, стужка), і ў Т'е яшчэ тры бронзавых (абруч, булавы, стужка). На этапе Кубка свету ў Лісабоне яна атрымала срэбра (стужка) і бронзу (булавы). У Бухарэсце яна з трыумфам выйграла мнагабор'я, а таксама фіналы з мячом, булавамі і стужкай, і затым паўтарыла гэта дасягненне на турніры ў Пезаро, узяўшы ў дадатак да золата ў аналагічных дысцыплінах срэбны медаль у практыкаванні з абручом. Па выніках пройдзеных чатырох этапаў Кубка свету Станюта ўзначаліла міжнародны рэйтынг гімнастак не толькі ў мнагабор'і, але і ў асобных відах. На пятым этапе Кубка свету ў Сафіі яна не прымала ўдзелу, а ў Корбы-Эсон зноў была ў ліку прызёраў (срэбра за мнагабор'е і мяч, бронза за булавы).



## Барыс Маісееў

**Аляксандр Лукашэнка павіншаваў заслужанага артыста Расійскай Федэрацыі Барыса Маісеева з 60-годдзем.**

Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што ў Беларусі жывуць тысячы прыхільнікаў таленту артыста, якія высока цэняць творчасць знакамітага земляка. «Упэўнены, што Ваша дзейнасць і ў далейшым будзе садзейнічаць умацаванню культурных сувязяў паміж народамі нашых краін», — гаворыцца ў віншаванні.

Барыс Маісееў нарадзіўся ў 1954 годзе ў Магілёве. Скончыўшы школу, ён з'ехаў у Мінск, дзе паступіў у харэаграфічную вучэльню. І скончыў гэтую вучэльню як класічны танцор.

Варта зазначыць, што Барыс Маісееў стаў адным з першых гей-спевакоў у Расіі, які ўчыніў «камінг-аўт» — то бок, адкрыта прызнаўся ў сваёй сэксуальнай арыентацыі. Па яго ўласных словах, ён «ніколі не хаваў сваёй арыентацыі, і ў мінулым часта за гэта атрымліваў». У той жа час ён сцвярджае: «Я не прапагандыст гей-культуры. Я проста гуляў у гей-культуру ў мінулых спектаклях».

# Цывілізацыйнае вымярэнне ўкраінскага крызісу

**Сілавое ўмяшанне Расіі ва ўнутраныя справы Украіны — яшчэ адно пацверджанне заняпаду праваслаўнай цывілізацыі.**

Сяргей НІКАЛЮК




Сёння займацца прадказаннямі наконт Украіны — справа няўдзячная. За апошнія некалькі месяцаў наша паўднёвая суседка перайшла ў кропку біфуркацыі (ад лацінскага «bifurcus» — «раздвоены»). У кропцы біфуркацыі стан сацыяльнай сістэмы становіцца няўстойлівы. Таму любая нязначная падзея — як унутраная, так і знешняя — можа паўплываць на траекторыю яе развіцця.

Гаворка, зразумела, ідзе пра кароткатэрміновую перспектыву. Аднак будучыня Украіны фармуецца пад уплывам не імгненных, а глабальных падзей, у якіх іншы маштаб вымярэння.

### Пакланенне эфемернаму інстытуту

Сёння нікога не здзівіш ацэнкай распаду СССР як глабальнай катастрофы XX стагоддзя. Стаўленне да такой ацэнкі — справа густу. А пра густы спрачацца бессэнсоўна. Між тым, практычна ў той жа час завяршыла сваю больш чым тысячагадовую гісторыю адна з пяці (па Арнольду Тойнбі) сучасных цывілізацый — праваслаўная.

За выключэннем Расіі, Беларусі і часткова Украіны ўсё астатняя еўрапейская праваслаўныя краіны сталі часткай заходняга свету. Частковасць Украіны і з'яўляецца яе галоўнай характарыстыкай. Супрацьстаянне гэтых частак мы сёння і назіраем.

У 1952 годзе Тойнбі выказаў думку, што «ў сутыкненні паміж Расіяй і Захадам ініцыятыва ў духоўнай сферы, у адрозненне ад сферы тэхналагічнай, перайшла ад Захаду да Расіі».

Пад «ініцыятывай» Тойнбі разумеў камуністычны светапогляд, які СССР пасля заканчэння Другой сусветнай вайны паспяхова экспартаваў у краіны трэцяга свету. Але чым ініцыятыва скончылася — нам вядома. Не здолеўшы асвоіць постіндустрыяльныя тэхналогіі, Краіна Саветаў страціла і свае канкурэнтныя перавагі на рынку светапоглядаў.

Варта адзначыць, што асноўная праблема праваслаўнай цывілізацыі сфармавалася ў момант яе нараджэння. У той час, як на Захадзе ўсе спробы адрадзіць Рымскую імперыю скончыліся правалам, на Усходзе такая імперыя была паспяхова створаная. Менавіта сярэднявечная візантыйская таталітарная дзяржава і аказала разбуральнае дзеянне на праваслаўную цывілізацыю.

«Кара Немезіды, — тлумачыў Тойнбі, — за творчыя поспехі можа прыняць форму ідалапаклонства, калі прадметам пакланення становіцца нейкі эфемерны інстытут. Класічным выпадкам няшчасцяў, спароджаных ідэалізацыяй інстытута, з'яўляецца захапленне праваслаўнага хрысціянства прывідам Рымскай імперыі». Захапленне будаўніцтвам «моцнай дзяржавы» — дадаў бы я сёння.

«Моцная дзяржава» — гэта жорсткі кантроль над грамадствам, гэта спыненне любых спробаў яго самаарганізацыі. Таму ў праваслаўі ў перыяд яго росту мы не сустрэнем ні ўніверсітэцкага самакіравання (у Беларусі яго няма і сёння), ні самакіравання гарадоў-дзяржаў, як у Італіі або ў Фландрыі (у Беларусі аб мінуўшчыне самакіравання гарадоў нагадваюць будынкі ратушаў, што дзе-нідзе захаваліся). Сучасныя ж будынкі мясцовых адміністрацый да самакіравання беларусаў ніякага дачынення не маюць.

З вышэйсказанага, аднак, не вынікае, што ад часоў імператара Льва III (VIII ст.) праваслаўныя народы не развіваліся. Вядома, развіваліся. Але яны развіваліся галоўным чынам за кошт запазычанняў дасягненняў Захаду. Адсюль «мадэрнізацыя, што даганяе» (спадзяюся, зразумела, хто за кім гнаўся).

У рэжыме «мадэрнізацыі, што даганяе», знаходзіцца і сучасная Беларусь. Яе кіраўнікі, якія перыядычна разважаюць пра неабходнасць асваення (г. зн. запазычання) бія- і нанатэхналогій, спрабуюць ужо які год мадэрнізаваць дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы. Памагай ім Бог!

### Апошнія сталі першымі

Падзеі на Украіне — гэта самаарганізацыя народа супраць карумпаванай і неадэкватнай палітычнай сістэмы. На жаль, далёка не ўсе ўкраінцы здольныя да самаарганізацыі. Адсюль раскол. Паводле дадзеных шматлікіх сацыялагічных службаў Украіны, прыкладна палова насельніцтва краіны падтрымлівае Майдан. Столькі ж ставіцца да яго адмоўна.

Па рэгіёнах стаўленне да таго, што адбываецца, рэзка палярызаванае. На паўночным захадзе Украіны пражывае 70% прыхільнікаў Майдана і 25% яго праціўнікаў, а на паўднёвым усходзе — 21% прыхільнікаў і 73% праціўнікаў. Пры гэтым узровень недаверу да эканамічных інстытутаў практычна ўсюды аднолькавы (70–80%)!

У Расіі ўспрыманне Майдана прынцыпова іншае. У канцы студзеня, да пачатку крывавых падзей, 84% расіян ацэньвалі палітычную актыўнасць украінцаў як спробу гвалтоўнага дзяржаўнага перавароту (тут і далей дадзеныя «Левада-цэнтра»). Тройку прычын, што прымусілі людзей пратэставаць, узначаліў «уплыў Захаду, які імкнецца ўцягнуць Украіну ў арбіту сваіх палітычных інтарэсаў» (44%). На другім месцы — «нацыяналістычныя настроі» (35%). І толькі на трэцім з вялікім адрывам — «абурэнне карумпаваным рэжымам Януковіча» (14%).

Да самаарганізацыі пад «дахам» дзяржавы, якая прэтэндуе на лаўры «моцнай», здольныя нямногія. Але варта толькі «моцнай дзяржаве» ў яе праваслаўнай трактоўцы аслабнуць, як у грамадстве пачынаюцца працэсы самаарганізацыі, накіраваныя на засваенне заходніх каштоўнасцяў. Руху ў процілеглы бок у рэжыме самаарганізацыі не адбываецца. Гэта ключавы момант.

Ва Украіне з яе разбоўтаным аўтарытарызмам гэтыя працэсы выразна прасочваюцца. За 17 гадоў кумулятыўны эканамічны рост на захадзе і ў цэнтры краіны быў амаль удвая больш хуткі (прырост валавога рэгіянальнага прадукту на 60,7%), чым на ўсходзе і поўдні (на 35,2%). Прырост прадукцыйнасці працы на захадзе і ў цэнтры Украіны таксама быў больш высокі, чым на яе ўсходзе і поўдні.

Калі яшчэ ў 1995 годзе ўсход і поўдзень краіны мелі больш высокі паказчык валавога рэгіянальнага прадукту (ВРП) на душу насельніцтва, чым захад і цэнтр (101,6% супраць 98,5%), дык у 2012 годзе ўжо захад і цэнтр Украіны прыкметна апярэджвалі па гэтым паказчыку яе ўсход і поўдзень (104,3% супраць 95,2%).

Адпаведна, змянялася і структура электаральных пераваг насельніцтва. У 1991 годзе на першых прэзідэнцкіх выбарах за кандыдата захаду і цэнтра Украіны прагаласавалі 23% выбаршчыкаў, а за кандыдата ад усходу і поўдня — 62% выбаршчыкаў. З кожнымі наступнымі выбарамі ўкраінцы ўсё больш актыўна падтрымлівалі кандыдатаў захаду і поўдня краіны. У выніку на парламенцкіх выбарах у 2012 годзе апошнія сталі першымі з вынікам 50% vs. 43%.

### Народ-выратавальнік

Усё жывое, паводле Гегеля, вартае смерці. Цывілізацыі ў гэтым сэнсе не з'яўляюцца выключэннем. Яны нараджаюцца, дасягаюць вяршыні сваёй магутнасці і паміраюць.

Звернемся да класіка цывілізацыйнага аналізу. Прамяні сацыяльнага ўплыву, што сыходзяць ад цывілізацыі, якая расце, апраменьваюць сваіх суседзяў белым колерам. У дадатку да сацыяльнага выпраменьвання тры складнікі «белага колеру» — гэта палітыка, культура і эканоміка. Пакуль усе тры элементы злучаныя ў адной плыні, уздзеянне іх адбываецца ў адным накірунку.

Прамяні, якія зыходзяць ад цывілізацыі, што дэградуе, культурнага складніку не ўтрымліваюць, а складнік палітычны, калі і прысутнічае ў выпраменьванні, то ў мінімальнай колькасці. Паколькі сіла эканамічнага элемента аказваецца найбольш магутнай, уплыў на суседзяў цывілізацыі, што дэградуе, засяроджваецца на эканоміцы.

«Тэорыю выпраменьвання» Тойнбі сфармуляваў у 1938 годзе. Але прыклад сучаснай Расіі, якая ператварыла газавы вентыль у галоўны фактар свайго ўплыву, пацвярджае яе цалкам.

Сілавое ўмяшанне Расіі ва ўнутраныя справы Украіны — яшчэ адно пацверджанне заняпаду праваслаўнай цывілізацыі. Я не здзіўлюся, што ў большасці рускіх на пачатковым этапе яно выкліча прыліў патрыятызму, а разам з ім і абвостранае жаданне згуртавацца вакол «нацыянальнага лідара». Адпаведныя вынікі сацапытанняў не прымусяць сябе доўга чакаць.

Працытую рускага філосафа і багаслова Мікалая Зярнова: «Пашырэнне нацыі, рост імперыі — гэта звычайная знешняя прыкмета ўнутранага перакanання народа, што яму дадзена асаблівая місія, якую ён павінен выканаць. Нечаканае ператварэнне маленькага Маскоўскага княства ў самую вялікую дзяржаву ў свеце міжволі прывяло яе народ да думкі, што ён надзелены місіяй выратаваць усходняе хрысціянства».

### Па шляху «крамлёўскіх старцаў»

Рашэнне аб увядзенні савецкіх войскаў у Афганістан было прынята «крамлёўскімі старцамі» на пасяджэнні Палітбюро 12 снежня 1979 года. На ўзрост удзельнікаў гістарычнага пасяджэння сёння часта спасылаюцца, каб патлумачыць фатальнае для СССР рашэнне. Але цяперашнія гаспадары Крамля яшчэ не дасягнулі ўзроставай мяжы, пры якой звычайна не пакідаюць без нагляду і хаваюць запалкі. Акрамя таго, усе яны звязаныя з Захадам не толькі дзяржаўнымі інтарэсамі.

Пакланенне эфемернаму інстытуту імперыі, што складае аснову праваслаўнай культурнай матрыцы, аказалася мацнейшым за асабістыя інтарэсы. Было б, аднак, памылкай усё спісваць на «вузкае кола абмежаваных людзей» у Крамлі. Просьбу прэзідэнта пра ўвядзенне войскаў на тэрыторыю Украіны Савет Федэрацыі задаволіў практычна без абмеркавання і аднагалосна!

Я не здзіўлюся, калі сацапытанні зафіксуюць у Расіі ўсплёск патрыятычных настрояў. У жніўні 2008 года ў час «прымусу да міру» Грузіі яны зашкальвалі. Ці рашэнне ўлады ў гэтым выпадку з'яўляецца прычынай, а ўсплёск патрыятызму — вынікам, разабрацца не так проста. «Архаічныя сістэмы, — паводле гісторыка Уладзіміра Булдакова, — вельмі залежныя ад масаў у псіхасацыяльных адносінах, хоць гэтага не ўсведамляюць у поўнай меры ні вярхі, ні нізы» (гэтую залежнасць мы маем магчымасць рэгулярна назіраць у Беларусі).

Логіка тут не дапаможа. Змены, якія адбыліся за апошнія 20 гадоў у Расіі і ўсходняй частцы Украіны, былі павярхоўныя. Далей за асваенне стандартаў спажывання яны не пайшлі. Еўропа для большасці носьбітаў праваслаўнай культуры абмяжавалася еўрарамонтам.

Калі Крэмль у бліжэйшы час не адменіць свае рашэнне, наступствы для Расіі будуць катастрафічныя. Першыя ластаўкі ўжо прыляцелі. На момант падрыхтоўкі гэтага артыкула (раніца 3 сакавіка) індэкс Расійскай таварна-сыравіннай біржы абваліўся на 10,3%. Інвестары спяшаюцца пазбавіцца ад расійскіх актываў.

# Чым пагражае Беларусі расійска-ўкраінскі канфлікт

Генадзь КЕСНЕР

**Сітуацыя, якая складваецца ва Украіне ў звязку з непасрэдным умяшальніцтвам у яе справы Расіі, выклікае сур'ёзную заклапочанасць у Свеце. Беларусь не ёсць выключэннем. «Новы Час» апытаў вядомых палітыкаў наконт таго, якія пагрозы яны бачаць для нашай краіны ў выпадку эскалацыі напружанасці ў Крыме, уводу войскаў на тэрыторыю нашай паўднёвай суседкі.**

**Леў Марголін,**
намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, эканаміст і прадпрымальнік:



— Што тычыцца Расіі, то маё меркаванне, што яна ўлезе ў такое балота, з якога будзе вельмі цяжка выкарабкацца. Калі яна сур'ёзна ўлезе ў Крым, то атрымае другі Афганістан у мініяцюры. Мяне крыху заспакойвае толькі тое, што яны там спрабуюць рабіць усё чужымі рукамі — рукамі нейкіх актывістаў, нейкіх казакоў, яшчэ невядома каго. То бок, Расія пакуль не імкнецца "свяціць" свае вайсковыя часткі, хаця ўсе разумеюць, што яны там ёсць і што яны стаяць за спінамі ўсіх гэтых «актывістаў». Але калі сітуацыя застанецца такой, якая яна ёсць, то ўсё ўтрасецца само сабою.

Датычна Беларусі, я не думаю, што непасрэдна будуць нейкія жорсткія наступствы. Але, канешне, усё больш робіцца зразумелым, што Расія — гэта такі партнёр, з якім сябраваць вельмі небяспечна. Таму лепш за ўсё было б нейк пакрысе адмежавацца ад такога сяброўства. Іншая справа, што наша ўлада зараз знаходзіцца ў такой сітуацыі, калі без Расіі ў эканамічным плане абысціся практычна немагчыма, таму пры жаданні Расія можа прымусіць Лукашэнку і падтрымаць яе дзеянні ва Украіне, хаця б маральна. Відаць, яму ўжо не атрымаецца адкруціцца ад Украіны так, як ён адкруціўся ад Абхазіі і Паўночнай Асеціі.

А так, я мяркую, будзе даволі жорсткая рэакцыя міжнароднай супольнасці, прычым уключна з Кітаем, які, як вядома, у стратэгічным плане падтрымліваў Расію ў рамках Савета Бяспекі ААН, ды і Казахстан адчувае небяспеку, паколькі ледзь не палова насельніцтва гэтай краіны — рускамоўныя. Таму апроч прымусовай падтрымкі дзеянняў Расіі, што абмежавала б магчымасці манеўраў Мінска на заходнім накірунку, я не бачу непасрэднай пагрозы для Беларусі.

**Павал Севярынец,**
сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя»:



— Наколькі мы ведаем, Расія ўжо ўвяла свае войскі, нам вядомы нават нумары вайсковых частак, якія там дыслакаваныя. Пуцін хлусіць, і гэтак жа сама хлусіць і нахабнічаць ён можа і ў выпадку з Беларуссю, прычым не міргнуўшы вокам. Увесь свет у шоку ад такіх паводзінаў. Але гэта стыль расійскага кіраўніцтва, гэта стыль імперыі, ён адзін і той жа ў Сталіна, у Гітлера, у Пуціна. І, безумоўна, гэта цяпер найбольшая пагроза для беларускай дзяржаўнасці і незалежнасці.

Калі сітуацыя застанецца такой, якая яна ёсць цяпер, гэта будзе азначаць, што Расія адбірае краіну ва Украіны. Яна хоча там правесці рэферэндум, кшталту тых, што праводзілі захопнікі на пачатку мінулага стагоддзя, дзе, абапіраючыся на сфальшаваныя дадзеныя тых плебісцытаў, проста забіраліся кавалкі зямлі. Еўрапейцам трэба зразумець: учора — Грузія, сёння — Украіна, заўтра — Беларусь, а потым Польшча, Балгарыя, Румынія і гэтак далей.

Мінску зараз трэба ўсяляк умацоўваць сваю незалежнасць, Лукашэнку трэба пачынаць перамовы аб вывадзе расійскіх базаў, бо ў любы момант яны могуць стаць апірышчам для акупацыі. А ва ўсіх дэмакратычных сілаў павінна наступіць прасвятленне ў галовах адносна ролі Расіі ў палітыцы. Сёння гэта роля агрэсара, захопніка, і супрацьстаянне расійскай агрэсіі павінна быць усвядомлена як найпершая задача таго, хто называе сябе беларускім дзяржаўнікам, будзь то з боку Лукашэнкі, будзь то ў стане апазіцыі.

**Станіслаў Шушкевіч,**
першы кіраўнік незалежнай Беларусі:



— Мне здаецца, што ніякіх дадатковых пагрозаў у нас не існуе, у нас увесь час адна пагроза, і яна рэалізуецца. Расія фактычна задаволена тым, што Лукашэнка праводзіць тут прымусовую русіфікацыю, а што ім яшчэ трэба? Больш пагрозы, чым цяпер, калі знішчаецца ўсё беларускае, няма. Украінцы маюць гонар, дык яны адстойваюць свае правы. А наша інтэлігенцыя ўжо даўно апусціла вушы і толькі гаворыць цудоўныя словы. Але ж ніхто не адстойвае свае беларускія правы.

Беларускае кіраўніцтва прыкормленае Расіяй, расслаенне ў нас вялікае, многа бядноты, але нагнаны вялікі страх, таму беларускае кіраўніцтва добра сябе пачувае і зараз. Для гэтай улады ніякай пагрозы з боку Расіі не існуе, а для нармальнай беларускай улады пагроза існавала б. Але ў нас няма беларускай улады.

> **Украінцы маюць гонар, дык яны адстойваюць свае правы. А наша інтэлігенцыя ўжо даўно апусціла вушы і толькі гаворыць цудоўныя словы. Але ж ніхто не адстойвае свае беларускія правы**

**Юрась Губарэвіч,**
намеснік старшыні Руху «За Свабоду»:



— Натуральна, пагрозы для Беларусі існуюць. Яны існуюць яшчэ з моманту аднаўлення гульняў Лукашэнкі па саюзу з Расіяй на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Расійскае кіраўніцтва разглядае Беларусь як неад'емную частку сваёй тэрыторыі, якая яшчэ знаходзіцца пад кіраваннем лаяльнага ёй прэзідэнта. Але ў выпадку, калі грамадства тут вырашыць абраць іншы шлях развіцця або іншую геапалітычную арыентацыю, гэта будзе ўспрынята з агрэсіяй, і я не выключаю, што сітуацыя ў Крыме можа паўтарыцца і ў дачыненні да Беларусі. Можа быць, нават у большай ступені, бо, у іх разуменні, мы ўжо знаходзімся ў руках Расіі.

**Уладзімір Някляеў,**
лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду»:



— Тое, што сёння адбываецца ў Крыме, а гэта непрыкрытая агрэсія, пагражае не толькі ўсёй Украіне, але можа пагражаць і Беларусі, і Казахстану, і ўсім новым незалежным дзяржавам, якія называюцца паслясавецкімі. Расія, абсалютна не маючы на тое ніякіх эканамічных і ваенных магчымасцяў, трымаецца за ідэю вяртання імперскай моцы, і гэта ёсць прычына тых пагроз, якія вынікаюць з яе сённяшняй палітыкі.

Відавочна, што беларускае кіраўніцтва вельмі няўтульна пачуваецца ў той сітуацыі, якая склалася. З аднаго боку, трэба падтрымліваць палітыку Расіі, бо Расія ёсць донар сённяшняга беларускага рэжыму, з іншага — калі падтрымліваць сённяшнюю палітыку ў дачыненні да Украіны, гэта значыць, падтрымліваць заўтрашнюю палітыку ў дачыненні да самога сябе.

**Сяргей Калякін,**
кіраўнік Беларускай партыі левых «Справядлівы свет»:

— Разрастанне канфлікту ва Украіне будзе мець скрайне негатыўныя наступствы для Беларусі. Па-першае, улічваючы, што мы суседзі, і ў нас агульная мяжа складае не адну сотню кіламетраў, а па-другое, у нас велізарнае тавараабарачэнне з Украінай. Грамадзянская вайна ва Украіне прывядзе да калапсу ўкраінскую эканоміку, як і нашы магчымасці эканамічных стасункаў з Украінай.

А ў цэлым гэта прадстаўляе пагрозу не толькі для Беларусі.



Развіццё сітуацыі па самым горшым ваенным варыянце з абодвух бакоў, а там ужо бразгае зброяй і NATO, якое праводзіць вучэнні з украінскімі войскамі, можа прывесці да трэцяй сусветнай вайны. Ніхто ніколі не верыў у сусветную вайну, яна прыходзіла нечакана, і потым ніхто не мог зразумець, каму і навошта гэта было патрэбна. Гэта вельмі сур'ёзны канфлікт, і падыходы да яго мусяць быць вельмі акуратныя.

**Аляксей Янукевіч,**
старшыня Партыі БНФ:



— Факт расійскай агрэсіі супраць Украіны, безумоўна, стварае небяспеку і для Беларусі. У рэгіёне, дзе мы пражываем, адбываецца такая эскалацыя напружанасці, якой фактычна не было ўжо доўгі час. У выпадку, калі гэтая агрэсія не будзе неадкладна спыненая, супрацьстаянне можа ахапіць усю Украіну, то бок гэтае супрацьстаянне будзе адбывацца на нашых межах.

У такім выпадку ўзнікае небяспека, што мы сутыкнёмся з уцекачамі, а таксама мы можам сутыкнуцца з тым, што канфлікт можа перакінуцца на нашу тэрыторыю. Калі сітуацыя захаваецца такой, якая ёсць, то нам будзе неабходна перагледзець канцэпцыю нацыянальнай бяспекі, якая сёння будуецца на тым, што расіяне будуць абараняць Беларусь у выпадку сур'ёзных небяспекаў.

Аднак мы пабачылі, што расіяне самі ёсць фактарам пагрозы для Беларусі, як і для іншых сваіх суседзяў. А гэта вымагае моцнай нацыянальнай кансалідацыі, каб мы маглі супрацьстаяць пагрозам, з якога боку яны не сыходзілі б, у тым ліку і з Усходу.

# ДЗЯДЗЬКА РЫГОР

**Апошнім разам мы гаварылі ў тую самую нядзелю, 2 сакавіка. Барадулін пазваніў недзе апоўдні. Кажу: «Сёння ж даравальная нядзеля, дзядзька Рыгор. Даруйце мне, калі ласка, калі што не так было». — «І вы мне даруйце, калі што не так было...» — рэхам лагодна адказаў Барадулін.**

Сяргей ШАПРАН



І пасля гаварыў яшчэ шмат добрага — дзядзька Рыгор быў шчодры на пахвалы, на добрыя словы і гаварыў іх практычна кожнага разу. А апошнія паўгода ён званіў ледзь не штодня...

Сёння можна казаць усё што заўгодна, але я думаю, што ён адчуваў, здагадваўся, што ў хуткім часе пойдзе. Пра тое ён гаварыў абсалютна спакойна, калі я часам пытаўся ў яго падчас інтэрв'ю, пра тое былі шмат якія яго вершы апошніх гадоў:

*Ты сабе, душа,*
*Свабодна лётай.*
*Я дабуду тут*
*Зямную рату.*
*Чую, кліча мама*
*З неахвотай.*
*Клікала не так,*
*Бывала, у хату...*

На карысць гэтаму сведчаць і крыху дзіўныя, як мне тады здавалася, учынкі дзядзькі Рыгора апошняга часу...

Мы былі знаёмыя пятнаццаць гадоў (неяк нядаўна дзядзька Рыгор нечакана запытаўся: «А калі мы з вамі пазнаёміліся?» І пасля паглядзеў самы яго першы аўтограф на кнізе, дык выходзіла, што ў гэтым годзе ў нас юбілей), шмат фотаздымкаў за гэты час было зроблена — сотні, калі не тысячы, аднак ніколі Барадулін не прасіў, каб я яго фатаграфаў — звычайна ініцыятыва сыходзіла ад мяне, апроч, бадай, двух выпадкаў: калі ён папрасіў зрабіць цыкл фотаздымкаў для кнігі «Дуліна ад Барадуліна» ды для «Кстоў».

Але ў гэтыя восень-зіму ўсё было інакш. Я толькі вярнуўся ў верасні з вёскі, нават яшчэ не паведаміў пра тое Барадуліну, а ён ужо назаўтра — вось жа тэлепатыя! — сам тэлефануе і адразу кажа: «У мяне барада як у маджахеда. Прыходзьце з фотаапаратам». Адзін з тых вераснёўскіх фотаздымкаў Глеб Лабадзенка паставіў на вокладку Барадуліна кнігі «Лепей».

І неаднойчы яшчэ клікаў, каб я прыходзіў з фотаапаратам, але фотамастацтва — справа такая ж, відаць, як і літаратура, — не кожнага разу атрымліваецца тое, што хацелася б у выніку бачыць... Апошнім разам дзядзька Рыгор папрасіў прыйсці з фотаапаратам ужо напярэдадні студзеня — гаварыў, што па-ранейшаму не галіцца і не стрыжэцца (сівы і доўгавалосы, ён нават на Салжаніцына стаў нечым падобны), а як зробім новыя фотаздымкі, дык тады і паголіцца, і пастрыжэцца...

Тыя здымкі зноў нечакана найперш для мяне самога атрымаліся, здаецца, удала. Адзін з іх змясцілі ў тым нумары «Новага часу», дзе была надрукавана наша апошняя з дзядзькам Рыгорам гутарка. Калі прынёс газету Барадуліну, ён, схіліўшыся над ёй, доўга глядзеў і ўсё прыгаворваў: «Геніяльнае фота». І пасля жартам дадаў: «Я нават сам сабе стаў крыху падабацца».

Валянціна Міхайлаўна, жонка Барадуліна, якая ў гэты час зайшла ў кабінет, усміхнулася: «Рыгор усё жыццё сабе падабаўся». Я ніколі такога не заўважаў за ім — дзядзька Рыгор не мог адарвацца ад уласнага фота. «Себя как в зеркале я вижу, но это зеркало мне льстит», — прыгадаў я радкі Пушкіна, якія ён напісаў, убачыўшы ўласны партрэт працы Кіпрэнскага. Барадулін рассмяяўся: «Правільна-правільна...»

Сёння я думаю, чаму ж дзядзька Рыгор так настойліва клікаў мяне ў апошнія свае паўгода прыходзіць з фотаапаратам? Мо хацеў застацца ў памяці сучаснікаў і нашчадкаў такім, якім і быў цяпер? Таксама і Васіль Быкаў, калі разам з Барадуліным і Генадзем Бураўкіным былі ў Бараўлянах за пяць дзён да яго сыходу, нечакана — мы ўжо былі на парозе — запытаўся, што, можа, я хачу зрабіць фотаздымкі (так і сказаў тады: «Фотография на смертном одре»).

А яшчэ дзядзька Рыгор спяшаўся з публікацыяй сваіх вершаў. Так, мы некалі зрабілі з Барадуліным кнігу яго ліставання з Васілём Быкавым «Дажыцца да зялёнай травы...», пасля разам з Наталляй Давыдзенкай сабралі кнігу ліставання Барадуліна з мамай Акулінай Андрэеўнай «Паслаў бы табе душу...», затым яшчэ былі беларуска-рускае «Перакуленае» Барадуліна і нарэшце кніга гутарак «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным», але ніколі за гэтыя пятнаццаць гадоў дзядзька Рыгор не прасіў, каб я перадрукоўваў на камп'ютары яго вершы ды рыхтаваў з іх цыклы для «Дзеяслова» ці «Літаратурнай Беларусі».

У гэтыя восень-зіму ўсё было інакш: практычна штотыдзень Барадулін званіў і прасіў прыходзіць, каб я забраў для перадруку новыя яго вершы ці тыя, што былі напісаны ў апошнія гады і якія ён знайшоў цяпер у сваім велізарным архіве. Я нават жартаваў, што нечакана для самога сябе зрабіўся літаратурным сакратаром Барадуліна...

Менавіта такім чынам і склаліся падборкі ў снежаньскі нумар «Дзеяслова» і ў некалькі выпускаў «Літаратурнай Беларусі», так склаўся той цыкл, што будзе надрукаваны ў красавіцкім «Дзеяслове».

Дзядзька Рыгор так спяшаўся дадаць вершы ў гэтую сваю апошнюю падборку, што званіў і прасіў прыходзіць нават ужо за адным вершам, які напісаў толькі ўчора. Апошні верш для той падборкі — пад назвай «Мальба» — 23 лютага ён ужо па тэлефоне прадыктаваў:

*Неба — трывалая столь.*
*Марна стараецца люць.*
*Госпад!*
*Ачалавеч мой боль,*
*Свойскі мой страх збязлюдзь!*

А пасля неаднойчы тэлефанаваў ды пытаўся: ці паспелі мы? Ці ўключыць рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч гэтыя вершы ў будучы нумар?.. Ён непакоіўся як малады паэт, які толькі-толькі пачынае свой шлях у літаратуры... Барадулін сапраўды спяшаўся. Тады гэта здавалася дзіўным, цяпер гэта зразумела...

Нават апошняе інтэрв'ю з дзядзькам Рыгорам, што выйшла ў НЧ напярэдадні яго 79-годдзя і стала не толькі маёй апошняй гутаркай з Барадуліным — гэта наогул апошняе яго інтэрв'ю, — я не збіраўся яго рабіць.

6 лютага, калі ішоў да дзядзькі Рыгора, ні пра якое інтэрв'ю нават не думаў. Дыктафон жа браў з сабой кожнага разу проста на ўсялякі выпадак. Аднак ужо дома ў Барадуліна падумаў, што не часта выпадае нагода пагаварыць з паэтам «пад запіс», бо, на жаль, у СМІ існуе такое паняцце, як «інфармацыйная нагода», а тут хоць і не юбілей, але тым не менш... Да Барадуліна апошнім часам рэдка калі звярталіся журналісты, мусіць, і таму ён яшчэ вельмі ахвотна пагадзіўся на тую гутарку...

Праз дзесяць дзён, калі прынёс інтэрв'ю на вычытку, мы яшчэ крыху дагаварылі — пра Караткевіча, пра філалагічнае пакаленне Барадуліна і — пра галоўныя шкадаванні тых, хто рыхтуецца да апошняга свайго шляху. Так і склалася тая публікацыя. Праўда, гутарка была надрукавана крыху ў скарочаным выглядзе. На старонкі НЧ не патрапілі:

***— Баюся паставіць вас у няёмкае становішча, а ці маліліся вы калі-небудзь за сяброў?***

— (Раздумвае.) За Быкава і за Караткевіча маліўся.

***— У касцёл хадзілі?***

— Не, сам...

***— На маю думку, за іншага па-свойму моліцца. Памятаю, калі ў Алеся Разанава ў Германіі здарыўся інфаркт, дык Іван Антонавіч Брыль, даведаўшыся пра тое — я якраз у той вечар завітаў да яго, — сядзеў ды чытаў кнігу Разанава. У кожнага свая вера і свае малітвы. І калі, да прыкладу, Някляеў быў у засценках КДБ, а пасля пад хатнім арыштам, дык вы ж штодня на працягу паўгода званілі ягонай жонцы Вользе, каб даведацца хоць пра якія-небудзь навіны пра сябра.***

— Я проста не мог не званіць тады. І, дарэчы, за Валодзю я таксама маліўся... Наогул, калі сябрам дрэнна, дык я за іх малюся.

***— Вас не палохае, як вы самі кажаце, прысутнасць смерці?***

— Раней палохала, а цяпер у сувязі з хваробамі, дык не. Паўтаруся, што адзінае жаданне — абы не пакутаваць... Часам нібыта ўжо і гатовы памерці, але прыйдуць іншыя хвілінкі, дык зноў хочацца жыць... Усё роўна калі час надыходзіць, дык ніхто не хоча паміраць.

***— Вы ўжо паўтара гады па стане здароўя не маеце магчымасці выходзіць з дому, але надвор'е тым не менш неяк уплывае на ваш настрой?***

— Так. Калі сонейка, дык і настрой сонечны, а калі яго няма, дык і настрой пахмурны... Усё-такі семдзясят гадоў — гэта семдзясят гадоў, прычым з хвосцікам. І, дарэчы, у думках я жыву не тут, а там, у Вушачы. Тут я ўсё жыццё як на кватэры.

***— А якія паравіны вам больш даспадобы****?*

— Гэта залежала ад узросту: раней вясна падабалася, пасля — зіма, прычым страшэнна падабалася! Чым больш быў мароз, чым больш гурбы, тым лепей. Я ж на поўначы Беларусі вырас, быў загартаваны: мароз — дык мароз, гурбы — дык гурбы... Ну, а у апошнія гады ўжо падабалася, банальна кажучы, залатая восень.

...Сёння ўсё гэта чытаецца іначай. Іначай пра ўсё і думаецца... Я дасюль яшчэ чакаю, што вось-вось патэлефануе дзядзька Рыгор і прачытае новы верш. Ці папросіць, каб прыходзіў з фотаапаратам, бо ў яго «барада як у маджахеда». Ці проста спытае, як пытаўся практычна штодня: «Як вашыя справы? Чым сёння займаецеся?»

## Ігар Шклярэўскі: «Барадулін — гэта Беларусь»



Калі рыхтаваў кнігу Барадуліна «Перакуленае», дзе былі яго вершы па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову, дзядзька Рыгор папрасіў звярнуць увагу найперш на пераклады. Сапраўды, з гэтымі перакладамі ўзнікла велізарная праблема, пра што і сказаў неяк Барадуліну: «Чытаю вас па-беларуску і разумею, што вы — геніяльны паэт; чытаю па-руску і часам бачу ўсяго толькі сярэдняга паэта», на што дзядзька Рыгор нечакана для мяне адказаў: «Так, па-руску я шараны паэт». Між тым, сярод шматлікіх сваіх перакладчыкаў аднаго дзядзька Рыгор усё-ткі вылучаў — сябра маладосці Ігара Шклярэўскага, гаварыў, што яго пераклады — геніяльныя... Ужо калі Барадуліна не стала, Ігар Іванавіч даслаў Уладзіміру Някляеву сваё развітальнае слова:

*«Лорка — это Испания. Фредерик Мистраль — Прованс с его легендами и миражами зноя. Бородулин — это Беларусь.*

*Такая у него судьба, такой чудесный дар — создать живой язык и превратить свою фамилию в синоним леса, дома, огорода, колодезного ворота, ведра с холодной солнечной водой.*

*И это он — дымок, летящий над полями, когда сжигают картофельную ботву.*

*Это его кленовый лист впечатался в домашний хлеб с затеками печного жара по краям.*

*Это его льняная скатерть цепляется за трещины и заусеницы на пальцах матери.*

*Это в его словах пульсируют земля и небо — родники и жаворонки.*

*Все остается только в слове, и только в нем вчерашнее не исчезает.*

*Таким неуходящим словом — простым и неожиданным, со всеми красками «весёлки»-радуги, со всеми фонетическими отзвуками болот, лугов и сосен — Бог одарил Рыгора Бородулина.*

*И никуда он не ушел от нас. Заиндевевшая Ушаччина, и аисты, и коростели, и стога, переплывающие на пароме Двину, Березину и Днепр, — все это Бородулин.*

*С поклоном и любовью —*
*Игорь Шклярeвский».*

# TV

## 10 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Камедыя «Пра што маўчаць дзяўчыны».
**11.45** Нашы.
**12.10** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё».
**13.10** Лірычная меладрама «Вясна на Зарэчнай вуліцы» (СССР).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Баявік «Анёлы Чарлі» (ЗША - Германія).
**17.15** БеларусьLIFE.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Крымінальны баявік «Паркер» (ЗША).

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «Трын-трава».
**13.10** Камедыя «Беражыся аўтамабіля».
**14.55** «Праўда дзесьці побач».
**15.15** Фільм «Пакроўскія вароты».
**16.15** «Пакроўскія вароты». Працяг.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Ток-шоў «Пазіцыя».
**22.00** АНТ прадстаўляе: «Гала-канцэрт выпускнікоў «Акадэміі талентаў».
**23.50** Містычны трылер «Лэдзі-каршак».
**02.05** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.20** «Такі лёс».
**12.05** СТБ прадстаўляе: «ХораШоў». Фінал.
**13.50** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.00** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Іншы мужчына» (ЗША - Вялікабрытанія, 2008 г.).
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.05** Тэлебарометр.
**10.40** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**12.45** Эксцэнтрычная камедыя «Чаго чакаць, калі чакаеш дзіця» (ЗША).
**14.50** «Песні для мамы». Святочны канцэрт.
**17.05** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**18.55** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**21.45** КЕНО.
**21.50** Тэлебарометр.
**21.55** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**23.30** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**00.20** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.45, 15.00, 16.55, 21.05, 00.35** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.50, 15.05, 17.05, 00.45** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Біятлон.
**08.15** «Канцэрт Бетховена». Мастацкі фільм.
**09.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**09.50** Серыял. «Мегрэ».
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Яўгена Цікоцкага.
**11.15** «Шлягеры назаўсёды». Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі В.Дудкевіча.
**13.00** «Снягурка». Мастацкі фільм.
**14.30** «Карані». Паэты Кішынёва.
**15.15** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». «Уладзімір Гасцюхін. Узыходжанне». Дак. фільм.
**15.45** «Наша спадчына». Жалудоцкі палац.
**16.10** «Цуды прыроды». Арктыка. Канада.
**16.45** «Сямейны альбом». Рыгор Шакулаў.
**17.15** «Добры дзень, мае дарагія!». Франтавая перапіска С.П.Каткова - мастака-педагога. Дак. фільм.
**17.45** «Святая Рыма». Дакументальны фільм пра жыццё і подзвіг сястры міласэрнасці, гераіні Першай сусветнай вайны Рымы Івановай.
**18.25** «Вясна на Зарэчнай вуліцы». Маст. фільм.
**20.00** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 5-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.30** «Батанічны сад». Мастацкі фільм.
**00.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Яўгена Цікоцкага.

### НТВ

**06.31** Таямнічая Расія.
**07.20** Іх норавы.
**08.17** Цуд тэхнікі.
**08.42, 09.15, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.57** Да суда.
**11.56** Суд прысяжных.
**13.21** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.22** Справа лекараў.
**15.13, 16.17** Пракурорская праверка.
**17.29** Гаворым і паказваем.
**18.25** Выратавальнікі.
**19.26, 20.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**21.12** Мастацкі фільм НТБ.
**23.09** Вілэастужка НТБ.
**00.05** Дзікі-3.

### МИР

**05.00** Маст. фільм «Не пакідай...».
**07.35** Мультфільмы.
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Маст. фільм «Жорсткі раманс».
**11.40** Тэлесерыял «Жанчына жадае ведаць».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.30** Тэлесерыял «Жанчына жадае ведаць».
**17.40** Тэлесерыял «Я шпік».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.45** Тэлесерыял «Я шпік».
**20.00** Тэлесерыял «Я шпік» (працяг).
**23.40** Маст. фільм «Жорсткі раманс».
**02.10** Маст. фільм «Залезці на Месяц».
**03.45** Дак. фільм «З нагоды. Камчатка. Жыццё на вулканах».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.00** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**08.30** Два на два (тэледыскусія): Алена Анісім і Вінцук Вячорка: Спроба рэвізіі Закону аб геаграфічных назвах – каму выгодна?.
**09.05** Дакументальная гадзіна: «Праз прыцэл і аб'ектыў», дак. фільм, 2010 г., Грэцыя.
**10.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 5 серыя.
**11.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**11.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.20** Два на два (тэледыскусія): Алена Анісім і Вінцук Вячорка: Спроба рэвізіі Закону аб геаграфічных назвах – каму выгодна?.
**12.55** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**13.30** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).
**14.00** «Каменная цішыня», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**15.00** Эксперт (сатырычная праграма).
**15.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**15.40** «Белы алеандр», маст. фільм, 2002 г., ЗША–Германія.
**17.30** «Рэвалюцыя. Дэдлайн», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**17.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 5 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пінгвінік Пік-Пок».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**22.10** «Белы алеандр», маст. фільм, 2002 г., ЗША–Германія.
**00.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.35** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**01.55** Аб'ектыў.
**02.25** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.40** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).

## 11 САКАВІКА, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**11.05** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «Выспа непатрэбных людзей».
**23.45** Сфера інтарэсаў.
**00.40** Дзень спорту.
**00.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Фільм «Пераступіць рысу».
**01.45** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10, 17.20** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Маці і дзіця» (ЗША - Іспанія).
**16.10** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Танга і Кэш» (ЗША, 1989 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.10** Беларуская кухня.
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**12.00** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**14.55** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**16.35** Вышэй за дах.
**17.10** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» .
**18.55** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фінала. «Баварыя» - «Арсенал». Прамая трансляцыя.
**00.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 12.25, 15.00, 17.05, 21.05, 00.05** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.35, 15.10, 17.10, 00.15** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Фігурнае катанне.
**08.15** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 5-я серыя.
**09.00** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**09.25** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Генрыха Вагнера.
**10.50** «Батанічны сад». Мастацкі фільм.
**12.45** «Скарбніца Берасцейшчыны».
**13.10** «Кавалеры рэк, балот і лясоў». Навукова-папулярны фільм.
**13.25** «Адлюстраванні». Жыццё і творчасць мастака Хаіма Суціна, ураджэнца мястэчка Смілавічы.
**13.45** «Падарожжа са смакам». Швецыя.
**14.20** «У рэху імені твайго...» Пра жыццё жонкі князя Міндоўга - Марты.
**14.30** «Эцьен. Вяртанне». Дакументальны фільм пра лёс разведчыка Льва Маневіча.
**15.20** «Зроблена!». Кінавытворчасць.
**15.45** «Любоў і жыццё маё...». Дакументальны фільм пра кампазітара У. Кандрусевіча.
**16.25** «Палескі пачастунак». Кулага і фаршыраваная бульба.
**16.35** «Скарбніца Віцебшчыны». Вартавы стагоддзяў. Віцебская ратуша.
**17.20** «Карані». Музей у Скарышэва.
**17.50** Росчырк часу». Творчасць фотамастака, мастацтвазнаўцы Алега Ананьева.
**18.05** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм матывах апавядання А.Кудраўца.
**18.35** «Наша спадчына». Палац у Дзятлаве. 1-я і 2-я часткі.
**19.00** «Цуды прыроды». Манголія. Гобі. Ірданія.
**19.30** «Плошча мастацтваў». Паэт, журналіст, рэдактар Юрый Сапажкоў.
**20.00** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 6-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.30** «Дачка марака». Мастацкі фільм.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Генрыха Вагнера.

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.43, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.58** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.38, 20.25, 21.25, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.30, 01.19** Дзікі-3.

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Агульны інтарэс».
**08.15** Тэлесерыял «Гюльчатай».
**09.00** Тэлесерыял «Гюльчатай» (працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.10** Праграма «Саюзнікі».
**23.40** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.30** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**02.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**09.40** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10, 15.40** Два на два (тэледыскусія): Алена Анісім і Вінцук Вячорка: Спроба рэвізіі Закону аб геаграфічных назвах – каму выгодна?
**10.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**10.50, 16.15** «Мае печаныя куры», маст. фільм, 2002 г., Польшча.
**11.55** «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**12.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**14.05** Асабісты капітал.
**14.25** Аб'ектыў.
**14.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**15.15** Відзьмо-невідзьмо.
**17.20** «Цівалі», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**17.50** Дакументальная гадзіна: «Праз прыцэл і аб'ектыў», дак. фільм, 2010 г., Грэцыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.40** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Рэмарка (культурніцкая праграма): Героі буктрэйлеру.
**22.10** «Лонданцы», серыял: 9 серыя.
**22.55** «Людскія справы».
**23.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.10** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**01.25** Аб'ектыў.
**01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**02.15** Рэмарка (культурніцкая праграма).

TV

## 12 САКАВІКА, СЕРАДА

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка». Закл. серыі.
**11.05** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі» .
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка». Заключныя серыі.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна). Закл. серыі.
**23.50** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Фільм «Ідэальныя ўцёкі».
**01.05** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Танга і Кэш» (ЗША, 1989 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Спатканне маёй мары» (ЗША).
**22.20** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажалйцца».
**00.15** Фільм «Падарожжа капітана Фракаса» (Францыя - Італія, 1990 г.).

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.10** «Пад грыфам «Вядомыя».
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**12.00** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**14.05** Імперыя песні.
**14.35** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**15.45** Рэпарцёр.
**16.35** «На шляху да чэмпіянату свету па футболе 2014».
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» .
**18.55** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**20.55** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. «Барселона» - «Манчэстар Сіці». Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Агляд.
**01.10** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

**БЕЛАРУСЬ 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00, 11.55, 15.00, 17.00, 21.05, 00.15** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.05, 15.10, 17.10, 00.20** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Лёгкая атлетыка.
**08.15** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 6-я серыя.
**09.00** "Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Мікалая Селяшчука.
**10.50** «Дачка марака». Мастацкі фільм.
**12.15** «Час кіно». Сцэнарыст Валянцін Чарных.
**12.40** «Васіль Корж. Урокі жыцця». Дак. фільм пра партызана, Героя Савецкага Саюза.
**13.10** «Наша спадчына». Пінскія святыні. 1-я і 2-я часткі.
**13.40** «Цуды прыроды». Коста-Рыка. Кенія.
**14.05** «Росчырк часу». Майстар жаночага партрэта Галіна Конанава.
**14.20** «Настальжы». Кампазітар Л.Шлег.
**14.50** «Палескі пачастунак». .
**15.20** «Маскоўскі Крэмль». Дак. фільм пра гісторыю і экспазіцыю Маскоўскага Крамля.
**16.25** «І смех, і бяда». Кароткаметражны фільм па апавяданнях Якуба Коласа.
**17.20** «Летуценні Я.Драздовіча». Пра вядомага беларускага мастака.
**17.45** «Шчасце Алены». Дакументальны фільм пра сцэнарыста і рэжысёра Алену Тураву.
**18.05** «Карані». Б.Казлоўскі і яго вясковы музей.
**18.35** «Салаўіная рака». Навукова-папулярны фільм.
**18.55** "Без эпітафіі». Дак. фільм аб трагічным лёсе пісьменніка З.Жылуновіча (Цішкі Гартнага).
**19.45** «Найменні і вобразы». Народны майстар Уладзімір Лук'янец.
**20.00** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 7-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**22.25** «Любімая». Мастацкі фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Мікалая Селяшчука.

**НТВ**

**06.07, 07.08, 08.11** НТБ раніцай.
**08.45, 09.20, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.23** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.33, 20.15, 21.20, 22.10** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.29** Дзікі-3.
**01.16** Авіятары.

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15** Тэлесерыял «Гюльчатай».
**09.00** Тэлесерыял «Гюльчатай» (працяг).
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.30** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**02.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».

**БЕЛСАТ TV**

**07.00, 09.25, 12.25, 14.50, 02.35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.40, 14.05** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55, 14.20** Аб'ектыў.
**09.45** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.10, 15.35** Відзьмо-невідзьмо.
**10.40** Моўнік: Лічым правільна!
**10.50, 16.15** Назад у будучыню.
**11.00** «Людскія справы».
**11.35** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял.
**15.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.05** Моўнік: Лічым правільна!
**16.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Адам Міцкевіч.
**16.40** «Людскія справы».
**17.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял.
**18.05** «Лонданцы», серыял: 9 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** 54 % (публіцыстычная праграма).
**22.10** «Парадокс», серыял: 10 серыя.
**22.55** «Сукенка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**23.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**00.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**02.10** Аб'ектыў.
**02.55** 54 % (публіцыстычная праграма).

## 13 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.35** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной». 1-2 серыі.
**11.05** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна). Закл. серыі.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Дыхай са мной». 1-2 серыі.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.15** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Меладрама «Ластаўчына гняздо».
**21.00** Панарама.
**21.45** Біяграфічны серыял «Фурцава». 1-2 серыі.
**00.00** Сфера інтарэсаў.
**00.50** Дзень спорту.
**01.05** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**БЕЛАРУСЬ 1**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** «У наш час».
**12.05** «Яны і мы».
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Сам-насам з усімі».
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.20** «Смешнае і яшчэ смешней».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.05** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсер. фільм.
**22.15** Прэм'ера. «Дурная кроў». Шматсер. фільм.
**23.20** Трылер «Шпіён, выйдзі прэч!».
**01.35** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажалйцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-3». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Спатканне маёй мары» (ЗША, 2006 г.).
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5» (ЗША, 1999 г.).
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** Фільм «Шатобрыян» (Францыя, 2010 г.).

**БЕЛАРУСЬ 2**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу».
**10.10** Заўтра - гэта мы!
**10.40** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.45** Серыял «У кожнага свая вайна» (Расія).
**13.45** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.20** Серыял «Універ. Новы інтэрнат» (Расія).
**15.30** Аўтабатл.
**16.05** Дэтэктыўны серыял «Дзень гневу» .
**17.05** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**18.35** Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). Заключная серыя.
**19.35** Тэлебарометр.
**19.40** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**20.55, 23.00** Футбол. Ліга Еўропы. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.50** «КЕНО».
**01.00** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».

**БЕЛАРУСЬ 3**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05, 12.10, 15.05, 17.05, 00.30** «Энцыклапедыя беларускага спорту». Вольная барацьба.
**08.15** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 7-я серыя.
**09.00** «Тысячагадовы Заслаўль». Дак. фільм.
**09.30** Серыял. «Мегрэ».
**10.15** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Юрыя Карачуна.
**10.45** «Любімая». Мастацкі фільм.
**12.05** «Калейдаскоп».
**12.20** «Гісторыя аднаго горада». Дакументальны фільм пра мінулае горада Мінска.
**12.50** «Востраў». Дакументальны фільм пра творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**13.10** «Найменні і вобразы». Кавальская справа.
**13.25** «Андрэй Грамыка. Гігант, якому ўдалося выжыць». Дак. фільм.
**14.20** «Музеум». Скульптурныя надмагіллі.
**14.30** «Карані». Ася Чабан - беларуска, якая жыве ў Польшчы.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.15** «Цуды прыроды». Мадэйра. Тайвань. Балі.
**15.40** «Наша спадчына». Палац Валовічаў.
**15.55** «Плошча мастацтваў». Кампазітар Андрэй Мдзівані.
**16.30** «З лейкай і блакнотам». Дак. фільм, дзе паказаны ваенныя фатаграфіі А.Дзітлава.
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.15** «Скарбніца Магілёўшчыны». Гісторыя мястэчка Жылічы.
**17.40** «Магія дрэва». Навукова-папулярны фільм.
**17.55** «Бусляня». Кароткаметражны фільм.
**18.40** «Лабірынты». Паэтэса Алаіза Пашкевіч, вядомая пад псеўданімам Цётка.
**19.05** «Тканіна жыцця». Дак. фільм.
**19.20** «Сёння. Аляксей Дудараў». Фільм-партрэт вядомага драматурга, старшыні Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі.
**20.00** Серыял. «Герой нашага часу». Паводле аповесці М.Ю.Лермантава. 8-я серыя, закл.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.00** «Тысячагадовы Заслаўль». Дак. фільм.
**22.30** «Паміж жыццём і смерцю». Мастацкі фільм.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Юрыя Карачуна.
**00.20** «Калейдаскоп».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.38, 09.37, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.23** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.32** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.40, 20.30, 21.25, 22.15** Марскія д'яблы. Віхраслуп.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.25, 01.17** Дзікі-3.

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**10.00** Маст. фільм «З каханымі не растаюцца».
**11.30** Праграма «Дыяспары».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Злачынствы і пакаранне».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Маст. фільм «З каханымі не растаюцца».
**01.45** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.25** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**04.25** Праграма «Злачынствы і пакаранне».

**БЕЛСАТ TV**

**07.00, 09.20, 12.30, 14.50, 23.50, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.50, 14.20** Аб'ектыў.
**09.35** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.55** «Парадокс», серыял: 10 серыя.
**11.40** «Сукенка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**14.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.05** 54 % (публіцыстычная праграма).
**15.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**16.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.25** «Парадокс», серыял: 10 серыя.
**17.10** «Сукенка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**18.00** «Час гонару», серыял: 46 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10, 20.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два: Аляксандр Дабравольскі і Лявон Баршчэўскі: 20-годдзе Канстытуцыі.
**22.20** «Вызваліць матыля», дак. фільм, Польшча.
**23.05** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 11 серыя.
**01.25** Рэпартэр.
**01.50** Аб'ектыў.
**02.35** Два на два: А. Дабравольскі і Л.Баршчэўскі: 20-годдзе Канстытуцыі.

TV

## 16 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.40** Камедыя «Падкідыш» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Выратаваць боса».
**11.30** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**15.15** Твой горад.
**15.30** БеларусьLIFE.
**15.55** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.15** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.20** Меладрама «У ракі два берагі. Працяг» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Фантастычны трылер «Суддзя Дрэд».
**00.05** Камедыйны серыял «Выратаваць боса».

### ОНТ (1 Беларусь)

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** «Вясельны перапалох».
**12.15** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.10** Шматсерыйны фільм «Вангелія».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «Канец кахання».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**23.30** Фільм «Адважнае сэрца».

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** Фільм «САФІ». Канада, 2010г.
**07.55** Фільм «Міс кангеніяльнасць-2: цудоўная і небяспечная» (ЗША - Аўстралія, 2005 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Іван Броўкін на цаліне» (СССР).
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Чалавек-нефармат, ці 6:5 на карысць Задорнава».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Каханне ў вялікім горадзе» (Расія - Украіна, 2009 г.).
**22.25** «Вялікія таямніцы душы».
**01.00** Фільм «Выхавальнікі» (Германія - Аўстрыя, 2004 г.).

### Беларусь 2

**07.35** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.35** Тэлебарометр.
**08.40** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.30** Заўтра - гэта мы!
**10.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**12.05** Стыль-бюро.
**12.40** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.35** Аўтабатл.
**14.10** Біятлон. Кубак свету. Гонка пераследу. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў.
**15.35** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне» (Расія).
**16.40** Рамантычны трылер «Змяркане. Сага. Зацьменне» (ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** КЕНО.
**21.10** Рэальны свет.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.35** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.
**01.30** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Нецярпенне душы». Мастацкі фільм.
**10.35** «Эпоха». Максім Багдановіч - паэт, публіцыст, літаратуразнаўца.
**11.25** «Калейдаскоп».
**11.35** «Скарбніца Гомельшчыны». Сімволіка разьбянога дэкору.
**12.00** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм па матывах апавядання Васіля Хомчанкі.
**12.35** «Роднае слова». Янка Лучына.
**13.00** «Калейдаскоп».
**13.05** «Адлюстраванні». Леў Сапега.
**13.30** «Падарожжа са смакам».
**14.00** «Камертон». Віртуоз ігры на акардэоне Пётр Дранга.
**14.30** «Карані». Беларуска Валянціна Іванова, якая жыве ў Літве.
**14.55** «Калейдаскоп».
**15.05** «Музеум». Шэдэўры беларускага іканапісу.
**15.20** «Настальжы». Жыццё і творчасць заслужанай артысткі Беларусі Любові Румянцавай.
**15.45** «Наша спадчына». Эпоха класіцызму і рамантызму.
**16.05** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**16.30** «Наперад у мінулае».
**17.00** Дзіцячы фільм. «Чатыры ноль на карысць Танечкі».
**18.25** «Культпрасвет».
**18.55** Сусветнае кіно. «Марыя-Антуанета».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дакументальны фільм пра творчасць кінарэжысёра, народнага артыста Расіі Мікалая Бурляева.
**22.15** «Культпрасвет».
**22.40** «Высокая кроў». Мастацкі фільм.
**00.00** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.29** Завяшчанне Леніна.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.19** Медыцынскія таямніцы.
**08.49** Іх норавы.
**09.24** Ямо дома!
**10.20** Першая перадача.
**10.50** Цуд тэхнікі.
**11.22** Паедзем паямо.
**11.54** Дачны адказ.
**13.17** Я худнею.
**14.16, 15.10** Другі забойны.
**16.17** І зноў добры дзень!
**16.42** Следства вялі...
**17.33** Вочная стаўка.
**18.27** Надзвычайнае здарэнне. Агляд.
**19.00** Сёння. Выніковая праграма.
**19.50** Цёмны бок.
**20.47, 21.35, 22.35, 23.17** Паляванне.
**00.13** Школа зласлоўя.

### МИР

**05.00** Маст. фільм «Руды, сумленны, закаханы».
**07.35** Мультфільмы.
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Праграма «Аэрасвет».
**09.25** Праграма «Прыгоды Македонскай».
**09.35** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.00** Маст. фільм «Чароўны дыямент».
**12.35** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**13.10** Маст. фільм «Гараджане».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.10** Тэлесерыял «Група шчасця».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.00** Тэлесерыял «Група шчасця».
**23.50** Тэлесерыял «Загадкавыя забойствы Агаты Крысці».
**01.30** Маст. фільм «Чароўны дыямент».
**04.05** Дак. фільм «З нагоды. Таямніцы скарбаў».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.45** «Тры шалёныя нулі», серыял: 8 серыя.
**08.10** Зона «Свабоды».
**08.50** «Апантаныя», дак. цыкл.
**09.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.50** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.10** Рэпартэр.
**10.40** Невядомая Беларусь: «Чарга. Гісторыя пытання ці пытанне гісторыі?», дак. фільм.
**11.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Вядзьмарка, жанчына і птушка».
**11.45** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 3 серыя.
**12.15** «Тры шалёныя нулі», серыял: 8 серыя.
**12.45** «Букаландыя», мультсерыял.
**13.10** «Фэмэн. Аўтапартрэт», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**14.00** «Парадокс», серыял: 10 серыя.
**14.50** «Як усе», меладрама, 2007 г., Францыя.
**16.20** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 6 серыя.
**17.10** Моўнік (лінгвістычная праграма): Дзе мы купляем?
**17.25** «Час гонару», серыял: 77 серыя.
**18.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх.
**18.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Францішак Савіч.
**19.00** Форум (ток-шоу): Знайсці сябе.
**19.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.20** Дакументальная гадзіна: «Дакументаліст», дак. фільм, 2012 г., Латвія.
**21.20** Фільматэка майстроў: «Затока», дак. фільм, 2009 г., ЗША.
**22.50** Зоры не спяць (культурніцкая праграма): Дзяніс Марціновіч і опера.
**23.25** Форум (ток-шоу): Знайсці сябе.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Бабруйск:** (8 029) 628 75 01, Вольга
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя: 3012741108019 Лицевой счет: Код 739

УНП*: 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Кассир

Пеня ________
Всего ________

# Венесуэльскі Майдан



**Праз год пасля смерці Уга Чавеса створаная імі мадэль на вачах перастае функцыянаваць, вынікам чаго сталі масавыя вулічныя пратэсты.**

Алег НОВІКАЎ

Зулікам таго, што ўсе вакол толькі і кажуць пра Украіну, паведамленне пра нейкую іншую рэвалюцыю міжволі ўспрымаеш праз прызму вопыту Майдану. Тым больш, што некаторыя паралелі паміж Каракасам і Кіевам прысутнічаюць. Напрыклад, па той бок акіяну апазіцыянеры таксама зносяць помнікі. Праўда, у іх не «ленінапад», а «угапад»: ахвярамі маніфестантаў з'яўляюцца помнікі Чавесу.

Асацыяцыі можна працягнуць, калі ўзгадаць, што стартавай кропкай украінскай рэвалюцыі стаў шок у грамадстве, выкліканы кадрамі збіцця студэнтаў на Майдане. Аналагічную рэакцыю выклікала ў венесуэльцаў нядаўняя трагедыя на адной з аўтазаправак, дзе на вачах 5-гадовай дачкі злачынцы расстралялі яе бацьку і маці — былую Міс Венесуэла. Аднак куды больш уразіла людзей не брутальнасць налётчыкаў, а паводзіны ўлады. Каментуючы забойства, прэзідэнт Нікалас Мадура пераклаў усю адказнасць на аўтараў тэлесерыялаў, якія, быццам, і правакуюць гвалт у грамадстве. Пытанню сцэнарыяў да серыялаў прысвяцілі нават спецыяльнае пасяджэнне прэзідэнцкай адміністрацыі.

І тут усім адразу і канчаткова стала зразумела, што чавісты ніколі не ў сілах вырашыць адну з самых балючых праблем венесуэльскага грамадства — яны не здольныя гарантаваць людзям бяспеку. Нагадаем, што краіна — адзін з сусветных рэкардсменаў па колькасці вулічных забойстваў (у мінулым годзе на вуліцах венесуэльскіх гарадоў забілі 25 тысяч чалавек). Пры гэтым 97 працэнтаў забойстваў, па статыстыцы, застаюцца не раскрытымі.

Праўда, усе палітолагі прызнаюць, што адной толькі тэмы бяспекі было недастаткова, каб людзі пайшлі на вуліцы. Мае месца кумулятыўны эфект: сістэма, як кажуць, прасядае адразу ў некалькіх месцах. Акрамя тэмы злачынства людзей непакоіць стан эканомікі. Тое, што інфляцыя ў Венесуэле вельмі высокая (56 працэнтаў у мінулым годзе), ведаюць усе. Таксама вядома, што краіна, нягледзячы на ўсе спробы Чавеса стварыць сваю індустрыяльную базу, жыве за кошт нафтавай рэнты. З часам гэта прывяло да занападу айчыннай прамысловасці (колькасць прадпрыемстваў за апошнія 13 гадоў скарацілася да ўзроўню 1973 года) і, адпаведна, да татальнай залежнасці ад імпарту. Адсюль дзяжурны дэфіцыт тавараў масавага спажывання, пачынаючы ад туалетнай паперы і заканчваючы харчаваннем, што, натуральна, прыводзіць да росту коштаў.

І зноў жа ўрад спрабуе лячыць раны явачным парадкам. Прыхільнікі Мадуры прыходзілі ў крамы і патрабавалі ад іх уладальнікаў тут і зараз знізіць кошты на тавары. Нечаканы распродаж, натуральна, выклікаў эйфарыю ў тых, хто быў у гэты час у крамах. Аднак у нацыянальным маштабе такая мера хутчэй спрыяла падзенню прадпрымальніцкай актыўнасці, што стала яшчэ адным штуршком для росту дэфіцыту. У гэтым плане цікава, што першыя барыкады супраць Мадуры паўсталі ў бедных кварталах, якія доўгі час лічыліся бастыёнам рэжыму.

І, нарэшце, апошні момант — крызіс мадэлі кіравання. Увесь існуючы цяпер у Венесуэле рэжым быў пабудаваны з заточкай пад фігуру Уга Чавеса. Яго харызма і аўтарытэт дазвалялі яму кантраляваць дыскурс у грамадстве, а галоўнае — у выпадку з'яўлення нейкай праблемы адразу пераводзіць стрэлкі на каго-небудзь іншага — на істэблішмент, на бюракратаў, на амерыканскіх шпіёнаў і г.д. У Нікаласа Мадуры — гэта канстатуюць усе — быць папулістам не атрымліваецца.

Як след, венесуэльская мадэль пасля яго прыходу ва ўладу пачала буксаваць. Спробы Нікаласа неяк эксплуатаваць харызматычную традыцыю папярэдніка хутчэй выклікалі смех (дастаткова ўзгадаць яго маналог пра тое, як Чавес з'явіўся яму ў выглядзе птушкі). Адсутнасць харызмы прэзідэнт паступова пачаў кампенсаваць агрэсіўнай рыторыкай і рэпрэсіямі. За 10 месяцаў яго знаходжання ва ўладзе скарацілася медыяпрастора, узрос ціск на апазіцыю.

Усё гэта ў выніку і выклікала венесуэльскі Майдан. На працягу апошніх трох тыдняў практычна кожны дзень у краіне праходзяць буйныя маніфестацыі апазіцыі. Прычым, у адрозненні ад Украіны, дзе людзі спачатку доўгі час верылі ў мірны пратэст, тут, з-за наяўнасці на руках у насельніцтва зброі, эскалацыя гвалту пачалася з першай гадзіны. Colectivos — групы прыхільнікаў Чавеса, часта стралялі ў дэманстрантаў. Стаўка на гвалт з боку ўлады, аднак, мела адваротны эфект. Той факт, што паліцыя не чапае мясцовых «цітушак», якія паляць па людзях, стала дэманстрацыяй выбарачнага прынцыпу права і яшчэ больш пашырыла колькасць незадаволеных. Пасля такіх выпадкаў прапановы Мадуры пачаць дыялог ужо не ўспрымаюцца.

Увогуле, тактыка ўлады адносна пратэстаў сыходзіць з пастулатаў канспіратыўнай тэорыі. Як і ў выпадку праблем з эканомікай або з феноменам злачынстваў, усё тлумачыцца інтрыгамі ворага. Лічыцца, што дэманстрацыі арганізуюць «фашысты, якія звязаныя з ЦРУ». Не выпадкова, што адной з першых рэакцый Мадуры на маніфестацыі стала высылка трох амерыканскіх дыпламатаў.

Нежаданне прызнаць шырокую сацыяльную прыроду пратэстаў выстаўляе ўладу ў камічным свеце. Прыкладна праз тыдзень пасля пачатку маніфестацый Леапольда Лопес, адзін з лідадаў студэнцкага руху, добраахвотна прыйшоў і здаўся паліцыі. Лопеса, якога афіцыйныя СМІ зрабілі галоўным арганізатарам пратэстаў, адразу адправілі на нары. Аднак, як бачым, на колькасць пратэстаў арышт не паўплываў.

Было б наіўна ідэалізаваць апазіцыю, у якой ёсць свой «Правы сектар» у выглядзе структур, звязаных з калумбійскімі парамілітарнымі атрадамі, што змагаюцца супраць партызан. Гэтая фракцыя ахвотна адказвае агнём на агонь з боку Colectivos. Больш рэфармісцкай лініі трымаецца «Стол дэмакратычнага адзінства» (Mesa de Unidad Democratíca) — кааліцыя дэмакратычных партый, якая яўна не кантралюе вуліцу. Аднак, безумоўна, маторам пратэсту з'яўляецца студэнцкі рух, чые праграмныя патрабаванні вельмі абстрактныя і не ідуць далей за лозунг адстаўкі Мадуры.

Што тычыцца перспектыў венесуэльскіх пратэстаў. Вышэй мела месца спроба знайсці агульнае паміж выступамі ў Венесуэле і ў ва Украіне. Цяпер час сказаць пра тое, чым яны адрозніваюцца. Перш за ўсё, гэта — фінансавыя магчымасці Мадуры. Маючы каля 60 мільярдаў штогод у бюджэце, рэжым можа купіць лаяльнасць вялікай групы насельніцтва. Акрамя таго, Мадуру будзе, як камікадзэ, да самага канца падтрымліваць прыкладна чвэрць венесуэльцаў, якія зрабілі пры Чавесе сацыяльны ліфт — перайшлі з катэгорыі бедных у сярэдні клас. Таму казаць пра тое, што цяперашні венесуэльскі Майдан будзе пераможным, пакуль усё ж рана. Аднак, калі сам Мадура не будзе мяняць сістэму, ён стоадсоткава прайграе, пахаваўшы адначасова ўсё, што яму завяшчаў Уга.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Рэспубліка Беларусь будзе першай краінай — сябрам Мытнага саюза, якая выйдзе з гэтага міждзяржаўнага аб'яднання. Калі Аляксандр Лукашэнка прыме такое рашэнне — ён атрымае палітычную і фінансавую дапамогу ЕС і ЗША. Сёння з'явілася ўнікальная магчымасць сфармаваць паўночна-ўсходнюю антыпуцінскую кааліцыю пры ўдзеле Польшчы, Украіны і Беларусі.

**«Kiev Times» (Украіна)**

Супраць уводу войскаў на тэрыторыю Украіны асцярожна выказаўся МЗС Беларусі, адзначыўшы, што Мінск «зацікаўлены, каб Украіна засталася суверэннай, незалежнай, тэрытарыяльна цэласнай дзяржавай». Кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка раней заявіў на фоне паведамленняў пра захопы вайсковых аб'ектаў у Крыме, што «ніхто не павінен «раздзярбаніць» гэту вялікую краіну». Казахстан і Беларусь застаюцца самымі блізкімі партнёрамі Масквы на міжнароднай арэне. Але пасля салідарнай рэакцыі Захаду, заявы Мінска і Астаны паказваюць, што Крэмль, рашыўшыся на ўвод войскаў, можа апынуцца ў міжнароднай ізаляцыі.

**«Рэспубліка» (Казахстан)**

Ужо распрацаваны праект будаўніцтва каля варот Еўропы цэлага горада з апрацоўчай прамысловасцю. Ён будзе збудаваны Кітаем у Беларусі, каб стаць плацдармам паміж Расіяй і Еўрапейскім саюзам — важным кірункам збыту кітайскай прамысловай прадукцыі. Гэты праект можна назваць фараонаўскім: Кітай укладзе ў рэалізацыю праекта 3 мільярды долараў. У адпаведнасці з дамоўленасцямі, палова ўсіх працаўнікоў, агульны лік якіх складзе 650 тысяч чалавек, тэхналогіі і матэрыялы будуць кітайскімі. Аднак з мэт праекта з'яўляецца набліжэнне кітайскіх экспарцёраў да межаў Еўрасаюза. Акрамя таго, дзякуючы дамоўленасцям паміж Расіяй, Казахстанам і Беларуссю прадукцыя, выробленая ў новым горадзе, можа прадавацца рускім і казахам без усякай мыты. Для Кітая гаворка ідзе пра натуральную рэалізацыю яго новай індустрыяльнай палітыкі: з тых часоў, як пачаў расці ўзровень жыцця кітайскіх грамадзян, Кітай стаў перакідаць за мяжу свае прамысловыя магутнасці гэтак жа, як на працягу шматлікіх гадоў паступалі ў стаўленні Кітая міжнародныя кампаніі.

**«La Stampa» (Італія)**

Лукашэнку пераследуе фантом грамадскіх хваляванняў, падобных на ўкраінскія. Ужо ў канцы студзеня Лукашэнка казаў, што падзеі ва Украіне — гэта «кашмар і катастрофа», і шукаў у падзеях на Майдане польскі след. Загвоздка ў тым, што Лукашэнку цяжка будзе забяспечыць беларусам умовы жыцця як на Захадзе. А эканамічная сітуацыя ў Беларусі не лепшая, чым ва Украіне. Летась беларуская эканоміка вырасла толькі на 0,9% у параўнанні з ростам на 1,7% у 2012 годзе. А сёлета можа быць яшчэ горш. У студзені ВУП Беларусі зваліўся на 1,4% у гадавым вылічэнні, прамысловая прадукцыя аж на 7,1%. Яшчэ больш жаласныя вынікі знешняга гандлю. Мінулы год рахунак бягучых аперацый па знешнім гандлі Беларусь зачыніла з дэфіцытам 5,8 мільярда долараў. А гэта значыць, што Мінск з кожным разам мае ўсё менш цвёрдай валюты для выплаты вонкавых абавязкаў.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Улада спрабуе падсаладзіць пілюлю — магчыма, прадпрымальнікам дазволяць наймаць трох працаўнікоў не з ліку сваякоў. Гэта дзіўная забарона была чыннікам акцый пратэсту ІП яшчэ ў 2005 годзе. Праўда, ці выратуе прадпрымальнікаў яе адмена цяпер, бо дробныя прыватнікі настолькі змардаваны крызісам, што могуць і не пацягнуць наёмных працаўнікоў.

**«RFI» (Францыя)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РУМЫНІЯ. Уніяністы вітаюць раскол Украіны

Прыхільнікі аб'яднання Румыніі і Малдовы апраўдваюць усталяванне Расіяй кантролю над Крымам. Аргументацыя наступная: аказваецца, менавіта этнічныя ўкраінцы, а не рускія больш за ўсё традыцыйна тармазілі ўваход Малдовы ў склад Румыніі. «Самая вялікая частка мафіі ў Малдове пасля 1991-га года прадстаўлена ўкраінцамі, а не рускімі. Яны пры гэтым заўсёды выказвалі волю Кіева, які не хацеў інтэграцыі. Тыя, хто прасоўвае сепаратызм у Бельцах, Кагулу і Гагаузіі, з'яўляюцца ўкраінцамі, а не рускімі. Украінцы заўсёды вялі палітыку знішчэння румынскай ідэнтычнасці на акупаваных тэрыторыях, значна больш жорсткую, чым Сталін у савецкай імперыі. Украіна забрала сабе востраў Змяіны — румынскую зямлю, якая ніколі ёй не належала, і зараз яны пакрыўджаныя, паколькі мы праз Гаагу адабралі яго назад», — піша адно з румынскіх нацыяналістычных выданняў. Высnова — паслабленне Украіны дае шанс на інкарпарацыю Малдовы ў склад Румыніі. Цяжка сказаць, што думаюць на гэты конт афіцыйныя колы ў Бухарэсце. Аднак вядома, што Румынія ўжо асудзіла рашэнне Кіева скасаваць закон аб рэгіянальных мовах. Раней Румынія менавіта са спасылкай на Закон аб рэгіянальных мовах праводзіла вельмі актыўную папулярызацыю румынскай мовы і культуры ў Букавіне і Паўднёвай Бесарабіі.

**Паводле ўкраінскай і румынскай прэсы**

### КАТАЛОНІЯ. Уласны варыянт еўрапейскай валюты

У Каталоніі, дзе мараць пра незалежнасць, ужо падрыхтавалі ўласны варыянт еўрапейскай валюты. На каталонскай версіі адзінай еўрапейскай валюты, у адрозненне ад іспанскай, кароль Хуан Карлас заменены на малюнак двух мужчын на верхавіне традыцыйнай на каталонскіх фестывалях чалавечай вежы. На больш дробных манетах вартасцю ў 50, 20, 10, 5, 2 і 1 цэнт намаляваны заступнік Каталоніі Святы Георг, які перамагае дракона. Гэтым аматары незалежнасці не абмежаваліся. Яны замовілі ў Кітаі першы наклад у 8000 манет. Праўда, гэта хутчэй сувенірная прадукцыя. Слова «еўра» не фігуруе ні на адной з манет, каб ніхто не мог абвінаваціць у распаўсюдзе фальшывых грошай. Увогуле, увесь прыбытак з продажу такіх сувеніраў пойдзе ў фонд прапаганды каталонскай незалежнасці. Аўтары ідэі не хаваюць, што ў выпадку, калі ўвосень каталонцы прагаласуюць на рэферэндуме за незалежнасць, тыя манеты могуць стаць асновай для каталонскага еўра.

**Паводле іспанскай прэсы**

### ЧЫЛІ. Скандал з-за футболак

Што агульнага паміж чылійскім футболам і палесцінскім пытаннем? Аказваецца, гэтыя абсалютна палярныя з'явы вельмі цесна звязаныя. Усё дзякуючы арабскай дыяспары ў Чылі, якая яшчэ ў 1920 годзе заснавала каманду Club Deportivo Palestino, якая ў гэтым годзе ўпершыню дабралася да першай лігі. Перад пачаткам гістарычнага сезону ўладальнікі клубу прыдумалі для футбалістаў новы дызайн футболак, у тым ліку рашылі размясціць на іх контуры карты Палесціны. Палесціна на клубных майках выглядае такой, якой яна была да 1949 года, калі рашэннем ААН была падзеленая на Ізраіль і непасрэдна арабскую зону. Мясцовая ізраільская грамада пабачыла ў той мапе сімвалічны замах на адзінства Ізраіля. Грамада патрабуе выключыць Club Deportivo Palestino са спісу ўдзельнікаў турніру. У адваротным выпадку пагражае звярнуцца ў FIFA, статут якой забараняе палітызаваць гульню ў мяч. Пакуль Федэрацыя футболу не прыняла канчатковага рашэння. Гэта ў тым ліку звязана з тым, што шматлікія футбольныя клубы ў Чылі былі створаныя прыхільнікамі розных палітычных напрамкаў. Так, клуб Unin Española быў заснаваны аматарамі дыктатуры Франка, аб чым сведчыць сімволіка клуба, стылізаваная пад сімвал іспанскай фашысцкай партыі Фаланга. Калі забароняць сімволіку Club Deportivo Palestino, прыйдзецца рабіць татальную праверку клубнай сімволікі.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Будзе новая вышэйшая ўзнагарода

У Вярхоўнай Радзе Украіны пачаліся незвычайныя спрэчкі наконт таго, якой павінна быць вышэйшая ўкраінская ўзнагарода. Раней гэта быў ордэн «Герой Украіны». Па сутнасці, «Герой Украіны» быў капіркай з ордэну «Герой Савецкага Саюза», які ўзнік у 1939 годзе. «Герой Украіны» і «Герой СССР» нават знешне вельмі падобныя, паколькі ў аснове знакаў — выява зоркі. Ёсць прапанова зрабіць вышэйшым ордэнам Украіны «Ордэн Свабоды». Вось фрагмент яго апісання: «Ордэн Свабоды» — дзяржаўная ўзнагарода, якой узнагароджваюцца грамадзяне за выдатныя заслугі ў зацвярджэнні суверэнітэту і незалежнасці Украіны, кансалідацыі ўкраінскага грамадства, развіцця дэмакратыі сацыяльна-эканамічных і палітычных рэформаў, адстойванні канстытуцыйных правоў і свабодаў чалавека і грамадзяніна». Прапанова пакуль не выклікала татальнай падтрымкі. Галоўная прычына — тое, што ў парламенце засядае фракцыя аб'яднання «Свабода». На думку шмат каго, «Ордэн Свабоды» можа выклікаць асацыяцыі выключна з гэтай партыяй. Таму адначасова прапануецца іншы варыянт — «Ордэн дзяржавы».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Пра выбары і Дэпардзье

**23 сакавіка мясцовыя выбары адбудуцца не толькі ў Беларусі, аднак і ў Францыі. У адрозненні ад Беларусі, інтарэс да гэтай падзе ў Францыі каласальны. Пра тое, што адбываецца ў Францыі, Алегу Новікаву распавядае французскі журналіст Аляксандр Чукаеў.**




***— Перш за ўсё, распавядзіце, што ўяўляюць сабой мясцовыя выбары ў Францыі?***

— Абіраюцца дэпутаты мясцовых саветаў, дэпутацкая большасць у якіх прызначае мэраў. Выбары пройдуць прыкладна ў 37 тысячах муніцыпалітэтаў. Муніцыпалітэт у Францыі — гэта асаблівая і вельмі спецыфічная дзяржаўная структура. Мэрыя мае свой бюджэт, яна можа ўводзіць свае падаткі. Апошнім часам вырасла значэнне муніцыпальнай паліцыі, паколькі ёй дазволілі мець агнястрэльную зброю. Таксама трэба адзначыць, што для таго, каб балатавацца ў прэзідэнты Францыі, патрэбна 500 подпісаў мэраў. Гісторыя сведчыць, што кандыдатам малых партый часам цяжка сабраць тыя подпісы, паколькі мэры, як правіла, належаць да вядучых партый (сацыялісты або правацэнтрысты). Такім чынам, вынікі выбараў могуць паўплываць на прэзідэнцкія перспектывы Марын Ле Пэн — лідара Нацыянальнага фронту.

***— Наколькі сур'ёзныя шансы ў Ле Пэн стаць прэзідэнтам?***

— Апошнім часам яе рэйтынгі вельмі выраслі. У студзені яе папулярнасць нават часам уздымалася да 34 працэнтаў. Зараз, калі не памыляюся, за яе гатовыя галасаваць 19 працэнтаў выбарцаў. Не выключаюць, што правыя радыкалы (праўда, яны вельмі абражаюцца, калі іх так называюць) могуць захапіць шмат мэрый. Захоп муніцыпалітэтаў крайне правымі — вельмі рэдкая з'ява, паколькі дзейнічае прынцып «рэспубліканскага блоку», адпаведна якому ў выпадку пагрозы такой перамогі сацыялісты і правацэнтрысты галасуюць за сумеснага кандыдата.

***— Ці расчараваліся людзі ў палітыцы прэзідэнта Аланда?***

— Часткова расчараваліся. Па-першае, усе чакалі ад яго скарачэння беспрацоўя. Аднак, нягледзячы на ўсе яго рэформы, беспрацоўе стабільна трымаецца на ўзроўні 12 працэнтаў. Таксама, на думку левага электарату, Аланд не так радыкальна ўзняў падаткі на багатых. Таму шмат хто разглядаў яго маніякальнае жаданне дазволіць аднаполыя шлюбы як спробу хоць неяк прадэманстраваць сваю актыўнасць. Сам Аланд кажа, што некалькі гадоў — вельмі малы тэрмін для таго, каб яго рэформы пачалі сапраўды працаваць. З іншага боку, яго палітыка на супрацоўніцтва з камунамі імігрантаў значна знізіла ўзровень напружанасці ў бедных кварталах.

***— Як адлюстраваўся на папулярнасці Франсуа Аланда нядаўні скандал, калі стала вядома пра яго адзюльтэр?***

**Як сведчаць апытанні, адна з прычынаў, чаму людзі ідуць у апазіцыю да сацыялістаў, звязаная з тым, што Франсуа Аланд выглядае занадта мяккім і нерашучым. На гэтым фоне Марын Ле Пэн глядзіцца яўна лепш**

— Апазіцыя спрабавала раскруціць гэту тэму, аднак нікога асабліва гэта не бянтэжыла. У Францыі даўно лічыцца, што палітык сам па сабе — асоба несумленная, і ў прынцыпе ад яго трэба чакаць нейкага падману. Вельмі часта палітыкаў лавілі на тым, што яны спачатку крытыкуюць адзін аднаго, а пасля мірна вячэраюць. Значна больш грамадства перажывала за лёс грамадзянскай жонкі, якую Аланд кінуў і якая з-за гэтага трапіла ў шпіталь. Таксама шмат хто, асабліва жанчыны, спрачаліся, што ж такога сэксуальнага ў тым Аландзе, якога на першы погляд цяжка назваць мача.

***— Чаму свае пазіцыі губляе вядучая правая партыя — «Саюз за народны рух» (UMP)?***

— Перш за ўсё, гэта правал былога прэзідэнта і лідара UMP Нікаля Сарказі. Падчас прэзідэнцкіх выбараў ён вырашыў пабравіраваць — заявіў, што ў выпадку пройгрышу пойдзе з палітыкі. Слова не верабей. Прайграўшы Аланду, ён быў вымушаны пакінуць партыю, што рэзка ўдарыла па яе іміджы. Справа ў тым, што раней Сарказі выкінуў адтуль усіх яркіх персанаў са старой гвардыі Шырака. У Францыі любая партыя будуецца вакол яркага палітыка, якога ў UMP не аказалася. Больш таго, пачалася ўнутраная сварка за лідарства. Галоўныя канкурэнты — былы тэхнакрат Франсуа Фіён і апаратчык Жан-Франсуа Капе. На нейкім этапе была нават верагоднасць, што партыя развaліцца. Аднак пасля бакі найшлі нейкі кампраміс. Абодва палітыкі атрымалі пасаду сустаршыні, хаця нефармальна бойка за тое, хто павядзе партыю на прэзідэнцкія выбары, працягваецца.

***— Ці магчыма вяртанне ў палітыку Нікаля Сарказі?***

— Пра гэта зараз шмат кажуць. Пакуль Сарказі чытае лекцыі і выходзіць на публіку падчас канцэртаў сваёй жонкі Карлы Бруні. Гэтыя канцэрты ператвараюцца ў буйныя маніфестацыі прыхільнікаў былога прэзідэнта, паколькі сама творчасць Бруні мала каго цікавіць. Гэта відавочна па рэакцыі. Выступы Бруні не выклікаюць такога шквалу апладысментаў, як выхад Сарказі на сцэну, што ён абавязкова робіць у рамках шоў. Сам Сарказі, сапраўды, ужо не так катэгарычна кажа пра тое, што не вернецца ў палітыку. Аднак такі варыянт не значыць, што UMP адразу верне сабе вядучыя пазіцыі ў рэйтынгах. Як толькі Сарказі пойдзе ў прэзідэнты, адразу ўзгадаюць крымінальныя справы супраць яго і тое, што на мінулую кампанію ён браў грошы ў Кадафі, якому пасля здрадзіў.

***— Сарказі, Аланд, Ле Пэн. Гэта ўсё старыя твары. А ёсць новыя яскравыя палітыкі ў Францыі?***

— На жаль, няма. Гэта паказалі буйныя маніфестацыі супраць аднаполых шлюбаў. Нягледзячы на рух з удзелам мільёнаў людзей, ніякага новага лідара тая кампанія не дала. Гэта не вельмі весела, паколькі Францыі патрэбна новая генерацыя палітыкаў. Старая давяла, што не здольная аб'яднаць нацыю. Напрыклад, Сарказі — хутчэй палітык амерыканскага стылю. Фактычна, калі ён быў прэзідэнтам, упершыню ў V рэспубліцы ўзнік казус, калі гарант не можа з'явіцца на публіцы ў некаторых месцах, напрыклад, у бедных кварталах. Праўда, і Аланд не лепшы за Сарказі. Як сведчаць апытанні, адна з прычынаў, чаму людзі ідуць у апазіцыю да сацыялістаў, звязаная з тым, што Франсуа Аланд выглядае занадта мяккім і нерашучым. На гэтым фоне Марын Ле Пэн глядзіцца яўна лепш. Тым больш, што яна зрабіла больш мяккім свой лексікон — выкрасліла антысеміцкія і расісцкія лозунгі, больш не заклікае да вяртання да франка. Нават пагадзілася з тым, што імігранты, калі яны практыкуюць французскі лад жыцця, гэта, можа, і някепска.

***— Апошнее пытанне звязанае з фігурай Жырара Дэпардзье. Прайшоў год, пасля таго як артыст зрабіў свой вядомы дэмарш — перайшоў з французскага грамадзянства ў расійскае на знак пратэсту супраць высокіх падаткаў. Як ставяцца да яго ў Францыі?***

— Дэпардзье сказаў тое, што даўно хацелі сказаць іншыя. А менавіта, ён сказаў, што за 20 гадоў заплаціў каля ста мільёнаў еўра ў якасці падаткаў, а з яго з кожным годам патрабуюць усё больш і больш. Між тым, куды ідуць падаткі, нікому не зразумела. Таму, хаця з Дэпардзье і з яго эксцэнтрычных інтэрв'ю ў Расіі і смяяліся, людзі ставяцца да яго пазітыўна.

# Спрацуюць эканамічныя санкцыі

**Захад шукае варыянты, як адказаць Пуціну на яго агрэсіўныя дэмаршы ва Украіне. Прапануем агляд заходняй прэсы.**

Алег НОВІКАЎ



«Будзем шчырымі. Адна справа — казаць, што захоп Расіяй Крымскага паўвострава супярэчыць міжнароднаму праву, як заяўляюць многія навуковыя мужы з міністэрстваў знешніх спраў. Зусім іншая — зрабіць нешта рэальнае ў гэтых адносінах, — піша «The Washington Post». — Няма сэнсу бразгаць зброяй, калі ўвесь свет ведае, што ты не збіраешся яе ўжываць. Не існуе такой ваеннай пагрозы, якая магла б прымусіць Пуціна здаць Крым, калі ён сам таго не захоча. Расія — гэта далёка не Савецкі Саюз, але яна застаецца звышдзяржавай, чый ядзерны арсенал здольны стварыць пагрозу для існавання любога суперніка. У свеце мала краін, якія немагчыма напалохаць і прымусіць, скажам, раптоўным з'яўленнем на гарызонце амерыканскіх авіяносцаў. Расія — адна з іх».

Аднак суровы рэалізм не здымае з павесткі дня пытанне: што рабіць далей? «Ніхто не ведае, якія планы ў Пуціна, але, на жаль, ён мае шмат варыянтаў. Ён можа патрабаваць большай аўтаноміі для Крыму, або далучыць яго наўпрост, або даць інструкцыю крымскім рускім, каб яны абвясцілі «незалежнасць» накшталт таго, як зрабілі грузінскія правінцыі Абхазія і Паўднёвая Асеція. Ён можа паглыбіць эканамічныя праблемы Украіны за кошт павышэння коштаў на газ і ўзмацнення жорсткасці памежнага кантролю. Перад тым, як пайсці на кожны такі крок, Пуцін павінен ведаць, што, зрабіўшы яго, ён і яго ўрад стануць яшчэ большымі ізгоямі», — лічыць «The New York Times».

«The New York Times» раіць заходнім дзяржавам «забяспечыць хуткую і істотную падтрымку ўраду ў Кіеве, чыю казну спустошыў Януковіч».

Свой рэцэпт прапануе і «The Washington Post». На старонках газеты пералічаны шэраг крокаў, якія трэба будзе зрабіць ЗША і Еўропе для стабілізацыі сітуацыі. Сярод іх: стрымліванне Пуціна ў імкненні пашырыць сферу свайго ўплыву, разгортванне сіл NATO ў Польшчы, краінах Балтыі і Румыніі, прапанова ЕС заключыць пагадненне аб асацыяцыі і прасоўванне інтэграцыі з Грузіяй, Малдовай і Украінай і перспектывы сяброўства ў ЕС для гэтых краін, блакада ўступлення Расіі ў Арганізацыю эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця, замарожванне ваенна-прамысловага супрацоўніцтва».

А вось нямецкая «Der Welt» верыць у эфектыўнасць эканамічных санкцый. «Der Welt» піша: «Магчымыя санкцыі з боку краін «Вялікай Сямёркі», якія пагражаюць Расіі эканамічнай і палітычнай ізаляцыяй, прывядуць да яшчэ больш моцнага пагаршэння эканамічнай сітуацыі ў краіне, насельніцтва якой з-за мяжы ўвозіць больш за палову тавараў. Наступствы ад гэтых санкцый адчуюць на сабе ўсе галіны расійскай эканомікі за выключэннем газавай».

Брытанская «Financial Times» не супраць эканамічных санкцый: «Прэзідэнт Барак Абама і лідары ЕС паспяшаліся адмовіцца ад ідэі ваеннага адказу, і правільна зрабілі. Але ў Захаду ёсць мноства эканамічных інструментаў, каб ўскладніць жыццё эліце Расіі. На працягу апошняга дзесяцігоддзя Пуцін і яго атачэнне часцяком выкарыстоўвалі рыторыку халоднай вайны, спажываючы прадукты глабалізацыі. Цяпер яны, магчыма, сутыкнуцца з выбарам: можна атрымаць новую халодную вайну або атрымаць доступ да багаццяў Захаду. Альбо першае, альбо другое».

Іншае брытанскае выданне, «The Guardian», звяртае ўвагу на тое, што тэма антыпуцінскага рэваншу стала адной з самых важных тэмаў прэзідэнцкай кампаніі 2016 года. Пры гэтым яна цытуе аднаго з фаварытаў на пасаду кандыдата ад рэспубліканцаў Марка Рубія. Апошні заклікае Абаму «ўмацаваць часовы ўрад у Кіеве» і адраджць планы былога прэзідэнта Джорджа Буша па стварэнні супрацьракетнага шчыта ў Польшчы».

На гэтым Рубія не спыніўся. На старонках часопіса «Politiko» рэспубліканец прапанаваў цэлы комплекс мер супраць Крамля: «Правесці тэрміновае пасяджэнне NATO, на якім неабходна выпрацаваць стратэгію дзеянняў блоку ў дачыненні да Расіі. Накіраваць амерыканскіх прадстаўнікоў у краіны Еўрасаюза і Цэнтральнай Еўропы, каб пераканацца, што іх лідары цалкам падтрымліваюць курс ЗША, пашырыць спіс Магніцкага за кошт прозвішчаў шматлікіх расійскіх чыноўнікаў. І, нарэшце, Марка Рубія прапануе прыняць у NATO Грузію, адначасова ўзмацніўшы яе абарончым комплексам».

А вось «The Daily Telegraph» прапануе ўвогуле нічога не рабіць, паколькі Пуцін, паслаўшы войска ў Крым, сам уключыў таймер на часавай міне пад сваім рэжымам. «Ніколі не перашкаджайце свайму ворагу, калі ён памыляецца», — казаў Напалеон. Захапіўшы Крым, Уладзімір Пуцін здзейсніў памылку; гэтым ён толькі абвастрыў крызіс у Расіі, які выспяваў на працягу многіх месяцаў. Прасоўванне Пуціна ў Крым — следства яго больш глыбокай памылкі наконт таго, што можна вярнуць назад працэс, які прывёў да распаду Савецкага Саюза ў 1991 годзе. Па меры таго, як Расія ўвязваецца ў гэтую рэваншысцкую стратэгію, сітуацыя ў краіне будзе пагаршацца. Цалкам магчыма, што хутка пуцінская Расія зробіць больш пралікаў, і мы можам стаць сведкамі ланцуга памылак. Такія пралікі вядуць да катастрафічных наступстваў».

Будзе неэтычна не агучыць думку тых, хто выступае за кампраміс з Масквой. «У любым выпадку, улады ЗША не павінны рабіць сваю знешнюю палітыку закладніцай падзеяў ва Украіне. Пагрозы на адрас Расіі прывядуць толькі да пагаршэння сітуацыі ва Украіне. Такімі дзеяннямі Злучаныя Штаты «пакараюць» сябе, пазбавіўшыся ўсіх дыпламатычных механізмаў у дачыненні да Ірана і Сірыі пры ўдзеле Расіі. Абама не павінен ставіць пад небяспеку адносіны Захаду і Масквы, а наадварот — прапанаваць Пуціну выхад з сітуацыі ў Крыме», — такое меркаванне выказвае выданне «The American Conservative».

Калі займацца голай калькуляцыяй, то відавочна, што большасць СМІ, палітыкаў і каментатараў выступаюць за эканамічныя санкцыі. Хутчэй за ўсё, іх і ўвядуць. Як яны будуць выглядаць і які будзе ад іх эфект, пакуль, на жаль, нельга прагназаваць. Адно можна сказаць дакладна — інтарэс да нашага рэгіёну на Захадзе за нейкі тыдзень вырас каласальна з усімі магчымымі наступствамі і для Беларусі.

**«Ніколі не перашкаджайце свайму ворагу, калі ён памыляецца», — казаў Напалеон. Захапіўшы Крым, Уладзімір Пуцін здзейсніў памылку; гэтым ён толькі абвастрыў крызіс у Расіі, які выспяваў на працягу многіх месяцаў**

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пётр Парашэнка



Калі б заўтра ва Украіне адбыліся выбары прэзідэнта, алігарх, уладальнік кандытарскай імперыі «Рашэн», адзін з лідараў Майдану, атрымаў бы ў першым туры 30 працэнтаў. 4 сакавіка Цэнтр сацыяльных і маркеталагічных даследаванняў «Socis» апублікаваў, напэўна, першыя пасля абвяшчэння новых прэзідэнцкіх выбараў вынікі апытанняў наконт сімпатый выбаршчыкаў. Канкурэнты Парашэнкі мелі б 20 працэнтаў (Клічко) і 14 працэнтаў (Цімашэнка). Каментуючы вынікі, палітолагі кажуць, што Парашэнку ўдалося прыцягнуць былы электарат Януковіча. Экс-выбаршчыкі Партыі рэгіёнаў наўрад ці будуць масава галасаваць за кандыдата ад бела-блакітных, паколькі расчараваліся ў гэтай структуры. У большасці яны збіраюцца галасаваць за найбольш прагматычнага палітыка на Майдане, які адкрыта не звязаны з нацыяналістамі. Парашэнка пакуль лепш за іншых адпавядае гэтым запытам, паколькі неаднаразова спрабаваў выступаць у якасці перамоўшчыка паміж уладай і Майданам. Пра тое, што Парашэнка становіцца вельмі ўплывовай фігурай, сведчаць таксама праведзеныя тым жа агенцтвам апытанні наконт папулярнасці партый. Партыя «Салідарнасць», якая з'яўляецца ручной партыяй Парашэнкі, карыстаецца падтрымкай 18 працэнтаў электарату. Больш толькі ў партыі «Батьківщина» і «Удар».

### Чокве Лумумба



Навіна пра смерць экс-мэра горада Джэксан, сталіцы штата Місісіпі, ва ўзросце 66 гадоў выклікала вялікі рэзананс у ЗША. Справа ў тым, што нябожчык лічыцца гістарычнай фігурай. Менавіта Лумумба быў галоўным адвакатам сяброў афраамерыканскага руху на пачатку 1970-х гадоў (яго кліентамі таксама былі лідары радыкальнай суполкі «Чорныя пантэры»). Сам Чокве Лумумба быў яшчэ тым радыкалам. Ён выступіў адным з ініцыятараў праекту стварэння на базе пяці паўднёвых штатаў асобнай афраамерыканскай дзяржавы. За гэта і іншае ФБР хутка абвясціла адваката «ворагам дзяржавы». Пастаянны ціск з боку спецслужбаў не спыніў юрыста. Ён працягваў сваю практыку, дапамагаючы, як правіла, бедным чарнаскурым людзям. Нарэшце ў 2009 годзе ён змог перамагчы на выбарах мэра на выбарах у Джэксане, атрымаўшы 85 працэнтаў галасоў. Вынік можна лічыць сенсацыйным, паколькі Лумумба не хаваў сваіх радыкальных поглядаў, і пры гэтым абышоў кандыдатаў ад дэмакратаў і рэспубліканцаў. На пасадзе мэра Джэксана Лумумба праславіўся за кошт Форумаў. Форумы — гэта зборы грамадзян, якія раз на тры месяцы прыходзілі да мэрыі, каб выказаць бургамістру свае думкі. Цікава, што радыкальныя афраамерыканскія арганізацыі перакананыя, што Лумумбу забілі спецслужбы, якія не прабачылі яму сяброўства з «Чорнымі пантэрамі».

### Яраслаў Качыньскі



Качыньскі – лідар польскай правай кансерватыўнай партыі «Права і справядлівасць» (PiS), якая знаходзіцца ў апазіцыі. Прыхільнікі PiS пачалі незвычайную кампанію. На іх думку, апошнія падзеі ва Украіне, а менавіта інтэрвенцыя Расіі ў Крым, могуць разглядацца як знешняя пагроза для Польшчы. Адпаведна, цяперашні ўрад лiберала Дональда Туска мусіць пайсці ў адстаўку, а на яго месцы павінен быць створаны ўрад нацыянальнай абароны пад кіраўніцтвам Качыньскага. Чаму? Таму што, па словах кіраўніцтва PiS, іх партыя цяпер, адпаведна апытанням, найбольш папулярная партыя ў Польшчы. Акрамя таго, Качынскі мае імідж русафоба, што, быццам, можа напалохаць Пуціна і прымусіць яго перагледзець свае ваяўнічыя планы. Як не дзіўна, шмат хто лічыць, што ініцыятары кампаніі маюць рацыю. У сваю чаргу, апаненты Качыньскага не вераць у тое, што Пуцін сапраўды можа напасць на Польшчу. На розных інтэрнэт-форумах яны прапануюць прэм'еру Туску для пачатку выдаць Качыньскаму партфель міністра вайсковай ісціны. Смех смехам, але апошнія дні ў Польшчы сапраўды назіраўся рух вайскоўцаў у накірунку ўкраінска-польскай мяжы.

## ШАЛЕНСТВА ВАЙНЫ

**І грамадзянская вайна, і савецка-польская вайна адзначыліся экстрэмальнай жорсткасцю. Бальшавікі знішчалі ўзятых у палон польскіх афіцэраў і здзекаваліся з радавых Войска Польскага. Аднак не менш страшныя выпрабаванні чакалі і чырвонаармейцаў, што апынуліся ў руках палякаў.**


Жаўнеры Войска Польскага


Жыўцом закапаныя польскія жаўнеры пад Слонімам, 1920 год


Польскія жаўнеры


Рука польскага афіцэра закопанага жыўцом

# Трагедыя бальшавіцкага палону

**Сёння паміж Расіяй і Польшчай існуе шмат гістарычных супярэчнасцяў. У Варшаве памятаюць катынскую трагедыю. У Маскве выпрацавалі «анты-Катынь» у выглядзе трагічнай гісторыі чырвонаармейцаў, якія ў выніку польска-бальшавіцкай вайны апынуліся ў лагерах для ваеннапалонных на тэрыторыі Польшчы.**



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

Аднак за гэтымі гістарычнымі сюжэтамі, на жаль, згубіўся яшчэ адзін аспект няпростай польска-расійскай гісторыі, а менавіта лёс польскіх вайскоўцаў, узятых у бальшавіцкі палон падчас вайны 1920 года.

### Колькі іх было?

Паводле савецкіх і польскіх дадзеных, у бальшавіцкі палон трапіла ад 30 да 50 тысяч польскіх вайскоўцаў. Яны былі размешчаны ў спецыяльных лагерах на тэрыторыі Расіі. Дакладна вядома, што, у адпаведнасці з дамовай паміж Польшчай, Расіяй і Украінай аб рэпатрыяцыі і абмене ваеннапалоннымі, бальшавікі павінны былі перадаць Польшчы 40 тысяч салдат і афіцэраў Войска Польскага, якія знаходзіліся ў савецкіх лагерах, аднак у выніку ў Польшчу прыехалі 25,5 тысячы былых ваеннапалонных польскіх грамадзян.

У лік польскіх вязняў бальшавіцкіх канцлагераў увахodзілі і жаўнеры 5-й дывізіі польскіх стралкоў, сфарміраванай у Сібіры з былых жаўнераў аўстра-венгерскай арміі перыяду Першай сусветнай вайны. Частка з гэтых салдат трапіла ў рукі бальшавікоў у баях, іншыя здаліся чырвонаармейцам ля Краснаярска (прыкладна 8–10 тысяч чалавек).

Да ліку «польскіх» ваеннапалонных трэба далучыць і былых жаўнераў войска Станіслава Булак-Балаховіча, пятлюраўцаў і прадстаўнікоў іншых антысавецкіх вайсковых фармацыяў, якія змагаліся супраць Саветаў на баку Польшчы і якіх бальшавікі адносілі да «жаўнераў панскай Польшчы».

У Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі захоўваецца дакумент, у якім адзначаецца, што ў Тамбоўскім лагеры для ваеннапалонных знаходзіліся «балахоўцы», якіх адміністрацыя лагеру адносіла да польскіх ваеннапалонных. Гэты факт дае нам падставы сцвярджаць, што сярод ваеннапалонных польскіх вайскоўцаў маглі быць і ўраджэнцы нашай краіны.

### Голад, хваробы і агітацыя

Узятыя ў палон на Заходнім фронце польскія вайскоўцы часцей за ўсё накіроўваліся ў разведаддзел дывізіі на допыт, а адтуль — у асаблівы аддзел для рэгістрацыі. Пазней іх адпраўлялі ў канцэнтрацыйныя лагеры для ваеннапалонных. На тэрыторыі савецкай Расіі знаходзілася каля 40 канцлагераў для палонных палякаў. Найбольш вядомыя з іх Раждзественскі (Масква), Петраградскі, Растоўскі, Самарскі, Саратаўскі, Краснаярскі, Харкаўскі, Віцебскі, Магілёўскі, Гомельскі, Смаленскі, Яраслаўскі.

Умовы ўтрымання там былі жудасныя. Галоўнай праблемай для польскіх ваеннапалонных быў голад, які ахапіў усю Расію. Гэта прымушала шматлікіх польскіх грамадзян паддавацца бальшавіцкай агітацыі і ўступаць у кампартыю і польскую Чырвоную Армію. Напрыклад, у красавіку-ліпені 1921 года ў пункце абмену ваеннапалоннымі ў Баранавічах польскай дзяржаўнай паліцыяй былі арыштаваныя 1 афіцэр, а таксама 71 падафіцэр і радавы Войска Польскага, якія паддаліся ўгаворам бальшавікоў і сталі камуністамі.

Цяжкімі былі і ўмовы, у якіх трымалі польскіх палонных. Старыя баракі, адсутнасць цёплай вопраткі, антысанітарныя ўмовы — усё гэта спрыяла распаўсюджванню эпідэмічных захворванняў, якія масава знішчалі вязняў. У Цэнтральным вайсковым архіве Польшчы захоўваецца справаздача наконт умоў, у якіх знаходзіліся жаўнеры ўзгаданай вышэй 5-й Сібірскай дывізіі.

У гэтым дакуменце сцвярджалася: «Узятыя ў палон былі размешчаны ў Іркуцку. Тыфам хварэюць 30–40% палонных, з якіх 20% паміраюць. Ад тыфу памерла ад 700 да 1000 чалавек. Голад і холад правакуюць эпідэміі». А вось што расказваў афіцэр той жа 5-й дывізіі Антоній Глугевіч, якому ўдалося збегчы з бальшавіцкага палону: «Нас распранулі і забралі амаль усе асабістыя рэчы. У адным невялікім памяшканні знаходзіліся нары. Тут размяшчалася 180 чалавек. Прыбіральні не чысцілі. Стаяў смурод. Кожны дзень нас адпраўлялі на цяжкія працы пад моцнай аховай. Быў голад. Людзі часта паміралі падчас працы».

> На тэрыторыі савецкай Расіі знаходзілася каля 40 канцлагераў для палонных палякаў

Іншы жаўнер Сібірскай дывізіі Станіслаў Багдановіч так апісваў тыя падзеі: «Нас павялі на склад, дзе ляжалі... трупы. Мы павінны былі іх складваць на сані. Целы ляжалі паўсюдна. Трэба было па трупах лезці наверх. Некалькі палонных залезла туды і пачало скідваць на нас мёртвыя целы. Часамі станавілася жудасна, трупы чапляліся адзін за другога рукамі, нагамі, як быццам бы не жадалі пакідаць гэты склад». Па меркаванні польскіх даследчыкаў, у савецкім палоне памерла і было забіта каля 5 тысяч жаўнераў і афіцэраў 5-й дывізіі.

Не лепшай сітуацыя была і ў іншых канцлагерах для польскіх вайскоўцаў. Капрал Станіслаў Славінскі трапіў у палон пад Ігуменам і быў накіраваны спачатку ў распараджэння штабу 16-й бальшавіцкай арміі ў Магілёў, а пазней у лагер у Яраслаўль. «Там (у Яраслаўлі — І.М.) два канцэнтрацыйныя лагеры. №1 знаходзіцца ў Спаскім манастыры. У ім знаходзяцца 1300 палонных, у тым ліку 300 афіцэраў арміі Калчака, №2 размешчаны таксама ў былой царкве, і там 700 вязняў. Санітарныя ўмовы і харчаванне былі жахлівыя, у адным малым пакоі размяшчалася некалькі дзясяткаў чалавек. Вопратку не выдавалі і не змянялі. Палонных выкарыстоўвалі на цяжкіх працах. Два разы на тыдзень адбываліся мітынгі, дзе палякаў «апрацоўвалі» і заклікалі ўступаць у кампартыю», — успамінаў былы палонны.

Сяржант польскага войска Юзаф Анткевіч трапіў у савецкі палон ля мястэчка Пліса ў Беларусі. «Пасля таго, як трапілі ў палон, мы пешшу ішлі да Віцебска. Там нас аддзялілі ад афіцэраў і падафіцэраў і пад аховай адправілі ў Смаленск, а адтуль у Яраслаўль. У лагеры было каля 2000 палонных. Кармілі нас кепска. Палонных выкарыстоўвалі для нашэння цяжкіх грузаў на караблі, якія плавалі па Волзе. Бальшавікі ладзілі мітынгі і заклікалі польскіх жаўнераў уступаць у Чырвоную Армію. Тыя, хто пажадаў уступіць у бальшавіцкае войска, пазней атрымлівалі пропуск у горад», — так апісваў тыя падзеі Анткевіч.

Польскі бок спрабаваў ратаваць сваіх палонных. Напрыклад, у лістападзе 1920 года ў Мінск прыбыла дэлегацыя, якая павінна была дапамагчы хворым палонным. У справаздачы камісіі адзначалася, што большасць людзей хварэла не адной, а некалькімі хваробамі, сярод якіх былі дызентэрыя і брушны ці сыпны тыф. Дэлегацыя прывезла ежу і адзенне. Падчас знаходжання ў Мінску польская камісія ўдзельнічала ў пахаванні памерлых жаўнераў на каталіцкіх могілках Мінска. Пасля заключэння мірнай дамовы польская дэлегацыя рабілі інспекцыйныя паездкі і ў іншыя лагеры, у тым ліку ў Маскве, Туле, Тамбове. Камісіі адзначалі, што там былі значныя праблемы з харчаваннем, а таксама з інфекцыйнымі захворваннямі.

### Злачынствы на фронце

Польскія даследчыкі пазначаюць, што амаль 20 тысяч палонных жаўнераў Войска Польскага страцілі жыццё на месцы, дзе трапілі ў палон.

Найперш знішчалі афіцэраў. Варта хаця б прыгадаць трагічны лёс давідгарадоцкага ардыната, ад'ютанта Юзэфа Пілсудскага Станіслава Радзівіла, які трапіў у бальшавіцкі палон пад Кіевам і быў па-зверску забіты.

Радавы 30-га палку пяхоты Юзаф Ёнскі аказаўся ў руках бальшавікоў у жніўні 1920 года пад Хрубешовам. «У палон тады, — успамінаў былы ваеннапалонны, — трапілі 800 чалавек. Афіцэраў адразу пасеклі шаблямі, а нас, жаўнераў, павезлі ў Бердычаў». Жыхар мястэчка Сарны Уладзімір Волант быў арыштаваны «надзвычайкай» за контррэвалюцыйную дзейнасць. «Разам са мной сядзелі два польскія афіцэры, адзін з якіх паходзіў з Мінска. 13 верасня 1920 года яны былі расстраляныя толькі за тое, што былі афіцэрамі», — расказваў гэты чалавек.

Сярод найбольш жахлівых пакаранняў было закопванне жыўцом. Пры гэтым чырвонаармейцы засыпалі зямлёй палонных так, каб была бачна рука ці нага ахвяры. Гэты знак даваў катам магчымасць зразумець, ці жывая яшчэ іх ахвяра. Любілі бальшавікі саджаць сваіх ворагаў, у тым ліку і жаўнераў Войска Польскага, на кол...

Гаворачы сёння пра трагедыю палонных чырвонаармейцаў, загінуўшых у польскіх лагерах, варта параўноўваць гэты гістарычны сюжэт не з Катынскай трагедыяй 1940 года, а з лёсам польскіх салдат і афіцэраў, якія апынуліся ў бальшавіцкіх канцлагерах у 1919–1921 гадах. Лёс значнай колькасці гэтых людзей да сённяшняга дня не вядомы. І ў адрозненні ад ахвяраў Стшалкава, Тухолі, Катыні і Меднага, на месцах іх смерці няма помнікаў і мемарыяльных дошак.


У казематах Бабруйскай крэпасці


Савецкія ваеннапалонныя


Пахаванне чырвонаармейцаў на бабруйскім Фарштаце

# Таямніца польскага палону



**Падчас польска-бальшавіцкай вайны на тэрыторыі Беларусі, у Брэсцкай і Бабруйскай крэпасцях, палякамі былі створаны лагеры для ўтрымання палонных чырвонаармейцаў.**

## Лагер на Бугу

Голад і хваробы, што панавалі ў іх, а таксама жорсткае стаўленне адміністрацыі рабілі сваю чорную справу. У жніўні і верасні 1919 года дзве моцныя эпідэміі дызентэрыі і сыпнога тыфу практычна спустошылі лагер у крэпасці на Бугу. У пачатку жніўня быў пастаўлены рэкорд смяротнасці, калі ў адзін дзень ад дызентэрыі памерлі 180 чалавек.

Вось што гаварылася ў дакладзе ўпаўнаважаных камітэта Чырвонага Крыжа па выніках іх візіту ў лагер у Брэсцкай крэпасці: «Ад каравульных памяшканняў, таксама, як і ад былых стайняў, у якіх размешчаны ваеннапалонныя, зыходзіць страшэнны пах. Палонныя зябка ціснуцца вакол імправізаванай печкі, дзе гарац некалькі паленцаў, — адзіны спосаб абагравання. Ноччу, хаваючыся ад першых халадоў, яны цеснымі радамі ўкладваюцца групамі па 300 чалавек у дрэнна асветленых бараках, на дошках, без матрацаў і коўдраў».

Дэлегацыя прыходзіла да высновы, што з-за сумеснага цеснага пражывання здаровых ваеннапалонных і заразных хворых, недастатковасці харчавання, пра што сведчылі шматлікія выпадкі знясілення, ацёкаў, голаду, на працягу трох месяцаў знаходжання ў крэпасці, лагер у Брэст-Літоўску ў вельмі хуткім часе ператварыцца ў некропаль. І сапраўды, смяротнасць з 7 верасня па 7 кастрычніка склала: ад дызентэрыі — 675 (1242 хворых), ад сыпнога тыфу — 125 (614 хворых), ад зваротнага тыфу — 40 (1117 хворых), ад знясілення — 284 (1192 хворых), за ўсё — 1124 (4165 хворых).

## Бабруйскае паланенне

Не менш страшныя падзеі адбываліся і ў Бабруйску. У канцы жніўня 1919 года пасля жорсткіх баёў з ужываннем танкаў палякі авалодалі горадам і крэпасцю Бабруйск. Велізарная цытадэль на Бярэзіне ўжо не ўяўляла якога-небудзь важнага стратэгічнага значэння. Па сутнасці гэта быў вялікі склад ваеннага рыштунку і боепрыпасаў.

У кастрычніку 1919 года бальшавіцкае камандаванне падрыхтавала план наступлення 16-й арміі на Бабруйск з мэтай адразу авалодаць горадам і крэпасцю. 71-ы і 72-і пяхотныя палкі Чырвонай Арміі вялі кровапралітныя баі з палякамі на рацэ Бярэзіне і пад вёскай Пясочная. Планавалася, што да 18 кастрычніка 1919 года 71-ы полк пераправіцца праз раку і выб'е палякаў з горада. Але план бальшавіцкага наступу стаў вядомы польскаму камандаванню.

На месцах магчымых пераправаў праз раку часткі Войска Польскага зладзілі засады. Калі чырвонаармейцы пачалі пераправаляцца, іх з усіх бакоў пачалі абстрэльваць з кулямётаў і гармат. Акрамя гэтага, «жаўнежы» здолелі зайсці ў тыл бальшавіцкай 8-й пяхотнай дывізіі і акружылі яе. 19 кастрычніка 1919 года 71-ы чырвонаармейскі пяхотны полк быў канчаткова разбіты, а большасць яго салдат апынулася ў польскім палоне.

### Спалі мы на голай цэментнай падлозе

Звернемся да ўспамінаў камандзіра аднаго з аддзяленняў разбітага палка Міхаіла Караля: «Калі я прыйшоў у прытомнасць, то ўбачыў шмат сваіх аднапалчан, у тым ліку і камандзіра нашага батальёна, чырвонага афіцэра таварыша Малініна. Усе мы былі распранутыя дагала. На чырвонаармейцах нават не было ніжніх кашуль, толькі кальсоны. Спалі мы на голай цэментнай падлозе. Шкла ў вокнах каземата не было. Яны былі выбітыя і заставаліся толькі жалезныя краты. Кармілі нас адзін раз на суткі. У асноўным паілі «кавай» (так адміністрацыя лагера называла памыі, якія разлівалі ў кацялкі, — І.М.). Спаць мы кладліся кучай, каб абаграваць целамі адзін аднаго».


Камендант Бабруйскай крэпасці, палкоўнік Серба


Помнік на брацкай магіле вязняў лагера ў Бабруйскай крэпасці

## Паўстанне ў бабруйскай крэпасці

Праз некалькі дзён у каземат прыйшоў польскі афіцэр у суправаджэнні падначаленых і загадаў палонным пастроіцца ля сцяны. Ён прапанаваў вязням уступіць у добраахвотніцкія фарміраванні для барацьбы з бальшавікамі, але жадаючых не знайшлося. Палкоўнік разлаваўся. Палякі накінуліся на палонных і сталі іх збіваць прыкладамі вінтовак.

Рэгулярна ахова крэпасці выбірала сабе са зняволеных ахвяру і тут жа на вачах іншых палонных да смерці збівала яе дубовымі палкамі. Вельмі хутка сталі з'яўляцца вар'яты. Яны накідваліся на сваіх братоў па няшчасці і душылі іх, мабыць, думаючы, што гэта палякі. Зрэшты, сярод польскіх вайскоўцаў знаходзіліся і такія, якія спачувалі вязням, давалі ім ежу, перадавалі іх запіскі на волю.

У адзін з дзён ваеннапалонныя чырвонаармейцы вырашылі падняць паўстанне. Аднойчы ў крэпасць прывезлі снарады. Чыгуначная станцыя Бярэзіна знаходзілася побач з казармамі цытадэлі. Разгружаць эшалон павінны былі палонныя. Як толькі чырвонаармейцаў вывелі з казематаў, яны накінуліся на ахову. Але што маглі зрабіць знясіленыя людзі супраць узброеных салдат... Вельмі хутка пляц стаў пакрывацца целамі застрэленых і заколатых штыкамі палонных. Некаторым чырвонаармейцам усё ж удалося выбегчы праз уязную браму і схавацца. Сярод іх быў і Міхаіл Кароль.

## Брацкія магілы

Захаваліся і іншыя ўспаміны пра лагер у Бабруйску. Напрыклад, камандзір аднаго з партызанскіх атрадаў М. А. Ляўкоў у сваім данясенні камандаванню Чырвонай Арміі 30 студзеня 1920 года пісаў, што ў крэпасці амаль кожны дзень памірае па 40–50 ваеннапалонных ад тыфу, недаядання і нечалавечых умоў утрымання.

У некаторых казематах былі зроблены нары. У іншых палонныя вымушаны былі спаць на каменнай падлозе. Мёртвых вязняў з казармаў не выносілі да тых часоў, пакуль не былі падрыхтаваныя месцы для брацкіх магіл. Мёртвыя ляжалі разам з жывымі. Як адзначае беларускі гісторык А. Ненадавец, пасля паўстання ў крэпасці польская адміністрацыя вырашыла тых палонных, якія яшчэ заставаліся ў жывых, вывезці ў Французскае Конга і прадаць у якасці рабсілы. Магчыма, такім «экстравагантным» спосабам Польшча хацела разлічыцца за ваенна-эканамічную дапамогу, якую Францыя аказвала свайму хаўрусніку. Толькі ў 1934 годзе некальким былым ваеннапалонным атрымалася вярнуцца на радзіму, у Бабруйск.

Мала хто ведае, што перад адыходам з Бабруйска палякі замініравалі частку крапасных будынкаў і месца, дзе знаходзіўся лагер для палонных чырвонаармейцаў. Аб гэтым у сваіх успамінах пісаў урач М. Хазанаў, які падчас польскай акупацыі горада працаваў у Бабруйскім санітарным атрадзе.

Аб жудасных падзеях, якія адбываліся ў крэпасці ў 1919–1920 гадах, да сённяшняга дня нагадваюць брацкія магілы ў крэпасці. У 1927 годзе на месцы пахавання замучаных у лагеры чырвонаармейцаў быў пастаўлены помнік.

***

Сёння з упэўненасцю можна казаць, што трагедыя палонных чырвонаармейцаў, якія памерлі ў польскіх лагерах, — гэта агульная чорная старонка ў гісторыі Польшчы і Расіі. І яшчэ, безумоўна, Беларусі, бо гэтыя жудасныя падзеі адбываліся на нашай зямлі, а шмат з тых, хто пахаваны на бабруйскім Фарштадце, — былі беларусамі. Разам з гэтым, не варта гэты гістарычны эпізод разглядаць як нейкую «анты-Катынь». Трэба проста навучыцца паважаць адзін аднаго.

# Слоўнік багацця нашага

**У выдавецтве «Беларуская навука» ўбачыла свет праца, якую можна лічыць наватарскай не толькі ў Беларусі, але і на ўсёй постсавецкай прасторы.**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ




Два тоўстыя тамы змясцілі ў сабе больш за тысячу старонак «Падручнага гістарычнага слоўніка субстантыўнай лексікі». Навукоўцы з беларускай Акадэміі навук на чале з вядомым даследчыкам лексікі старабеларускай мовы прафесарам Аляксандрам Булыкам яшчэ раз звярнулі ўвагу тых, хто хоча (і тых, хто не хоча) пераканацца, што пісьмовая мова нашых продкаў — гэта ўнікальны скарб усёй нашай культуры.

Дзеля параўнання: калі ў вядомым чатырохтомным «Словаре Александра Пушкина» ўсяго змешчана і патлумачана крыху больш за 21 тысячу загалоўных рускіх слоў — назоўнікаў, дзеясловаў, прыметнікаў, прыслоўяў і ўсіх астатніх часцін мовы, то ў слоўніку старабеларускай мовы, які тут рэцэнзуецца, растлумачаны і перакладзены на сучасную мову больш за 25 тысяч адных толькі назоўнікаў!

Прытым што «Падручны слоўнік» ахоплівае толькі лексіку, якая была зафіксавана ў пісьмовых дакументах да сярэдзіны XVIII стагоддзя, а Пушкін, як вядома, жыў і пісаў значна пазней, у першай палове стагоддзя дзевятнаццатага. Узгадайма тут і пра той факт, што войны, пажары, якія ў незлічонай колькасці цягам стагоддзяў пракатваліся па беларускай зямлі, а таксама праца расійскіх імператарскіх і сталінскіх цэнзараў, відаць, назаўсёды пазбавілі нас магчымасці прачытаць мноства гістарычных і літаратурных помнікаў, якія дакладна існавалі, але да нас не дайшлі, — да прыкладу, Полацкі летапіс або кнігу Сымона Буднага «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам»...

«Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі» мае сваю гісторыю. Яшчэ ў 60-я гады мінулага стагоддзя ў Інстытуце мовазнаўства нашай Акадэміі навук (а тады дзяржава знаходзіла сродкі, каб утрымліваць такі інстытут як самастойную арганізацыю) пачалося стварэнне картатэкі гістарычнага слоўніка беларускай мовы, у чым асаблівa вялікую заслугу мелі такія беларускія мовазнаўцы, як Аркадзь Жураўскі, Іван Крамко, Уладзімір Анічэнка, Алена Юрэвіч, згаданы ўжо вышэй Аляксандр Булыка і іншыя.

Асноўнымі крыніцамі складання вышэйзгаданай картатэкі паслужылі граматы і дыпламатычныя дакументы Полацкага княства, беларуска-літоўскія летапісы, граматы і прывілеі князёў Вялікага Княства Літоўскага, праўныя акты Вільні і гарадоў сучаснай Беларусі, шматлікія тамы рукапіснай Метрыкі і ўсе тры Статуты ВКЛ, старабеларускія лексіконы, помнікі нашай даўняй мастацкай літаратуры і публіцыстыкі.

У 1982 годзе распачалося выданне «Гістарычнага слоўніка беларускай мовы». Памятаю, калі я тады набыў у кнігарні яго першы том, дык пачаў падлічваць: калі ў першым томе былі змешчаны загалоўныя словы на літару А і на палову літары Б, дык колькі гадоў спатрэбіцца на тое, каб дайсці да канца літары Я? Вынікі падлікаў былі не вельмі суцяшальныя. Падумалася, што, калі нават штогод будуць выходзіць па два тамы, дык выданне будзе завершана не раней як у 2002 годзе, а тады гэта здавалася вельмі аддаленай перспектывай. Ну, ды я быў занадта вялікім аптымістам. Сёння на дварэ ўжо 2014 год, а выдадзены слоўнік «не дабраўся» яшчэ і да літары У.

Зразумела, у цяперашняга беларускага бюджэту іншыя прыярытэты фінансавання: вунь колькі ёсць сілавых структураў, хакейных каманд і палацаў, «славянскіх базараў», «дажынак», «конкурсаў прыгажосці» і да т.п. І вось у гэтай сітуацыі лінгвісты з Акадэміі навук, як мне здаецца, папросту вырашылі не чакаць ад дзяржавы манны нябеснае.

У слоўнай скарбонцы помнікаў нашага старадаўняга пісьменства, безумоўна, найбольшую цікавасць уяўляюць назоўнікі («субстантыўная лексіка»), бо менавіта сярод іх зафіксавана найбольш цікавых слоў і славаформаў, якія проста нельга надалей захоўваць адно ў выглядзе картатэкі!

І вось цяпер ужо выдадзеным «Падручным гістарычным слоўнікам субстантыўнай лексікі» могуць карыстацца і гісторыкі, і літаратары, і проста тыя, хто цікавіцца моўнымі скарбамі нашых продкаў.

Аўтары гэтага слоўніка мусілі прарабіць велізарную працу, зважаючы на тое, што, па-першае, шмат якія старабеларускія словы зафіксаваныя ў розных правапісных і структурна-марфемных варыянтах (іх колькасць часам даходзіць да дзясятка), а па-другое, далёка не заўсёды было лёгка ўстанавіць значэнне таго або іншага назоўніка. У цэлым беларускія мовазнаўцы з гэтымі задачамі справіліся, з чым іх можна павіншаваць.

Вядома, што спецыялісты маглі б знайсці ў слоўніку пэўныя пропускі: напрыклад, адсутнасць такіх слоў, як «агня» (ягня), «адаръ» (сакавік па габрэйскім календары), «алефвіфъ» (азбука), «звездъ» (сход духоўных асоб), «злутьца» (пасярэднік), «зычэнье» (надаванне чаго-н.), «иваръ» (коўдра), «кгкелихъ» (келіх), «кгностикъ» (гностык), «кецъ» (пакрывала), «кидаринъ» (галаўны ўбор святара ў старадаўніх габрэяў), «природокъ» (у значэнні «прыплод»), «проездъ» (у значэнні «віна»), «прокъ» (у значэнні «рэшта») і некаторых іншых.

Але ў працы такога аб'ёму папросту немагчыма ўзяць пад увагу ўсё. Пагатоў што старабеларускія крыніцы далёка не ўсе вычарпаныя: у архівах, найперш замежных, ёсць яшчэ нямала помнікаў старабеларускай мовы, якія чакаюць сваіх публікатараў і даследчыкаў. А гэта значыць, што наступныя выданні слоўнікаў пісьмовай мовай нашых продкаў не прымусяць сябе доўга чакаць.

# Кацінае душа беларускіх зорак

**Невыпадкова Міжнародны дзень котак прыпадае на 1 сакавіка — душа муркоча праз надыход вясны, хочацца доўгіх шпацыраў — сам-насам, як котка, ці, наадварот, дзяліцца любоўю і цеплынёй з блізкімі.**

Дар'я СЛАБЧАНКА

Валанцёры дабрачыннай арганізацыі «ЗААшанец» нагадваюць аб тысячах бяздомных жывёлаў. Прыглядзіцеся, магчыма, нехта з іх — ваша родная душа. Бо кожны з нас — трошачкі кот ці котка. І пацвярджаюць гэта зоркі беларускага шоў-бізнэсу, якія пазнаёміліся з гадаванцамі «ЗААшанца» і даверылі сваю кацінаю душу фатографу Ядвізе Адамчык.

Музыка і шоў-мэн **Дзядзя Ваня,** хоць і нарадзіўся ў ліпені, лічыць сябе сапраўдным сакавіцкім катом. А гэта можа азначаць і брутальная кацяру, і ласкавае кацяня.

«З коткамі ў мяне шмат агульнага!» — запэўнівае мадэль, спявачка і мастачка **Ганна Гоманава.** І пералічвае перавагі сваёй кашэчай натуры: «Высокі інтэлект, любоў да свабоды, адказнасць за нашчадкаў, пластыка, не паддаюся дрэсіроўцы, здабытчыца». Па словах Ганны, ейны сябар дзяцінства кот Мурзік таксама быў такі: дзёрзкі, наравісты, схільны да начнога ладу жыцця.

Каларытны мужчына і вядомы саксафаніст **Павал Аракелян** лічыць сябе сапраўдным катэ, а сапраўдны катэ, па яговых словах, незалежна ад сацыяльнага статусу ў кашэчым свеце, заўсёды гатовы паганяць балду.

Дарэчы, зусім нядаўна Павал узяў сабе чароўнага катэ з прытулку «ЗААшанца».

Легендарны беларускі рокер **Лявон Вольскі** падзяляе кашэчую любоў да цеплыні — як фізічнай, так і духоўнай, а таксама да разумнай ляноты: «Навошта рабіць лішнія рухі, калі можна абысціся без гэтага?»

«Ну і, натуральна, незалежнасць», — дадае Лявон яшчэ адну агульную рысу.

Рэдактарка часопісу «Пінгвін» **Ірына Кабасакал** проста абажае кацiны масаж: калі любімы кот будзіць яе сваімі мяккімі лапкамі, а сама яна падобная на котку ў сваёй любові да сну.











Лідар гурта «No Comment Band» **Алег Лімон,** як кот, жыве па начах, а днём спіць. А яшчэ, нават калі галодны, застаецца добрым.

Нешта агульнае ёсць і паміж нажніцамі мадэльера і кашэчымі кіпцюрамі — непрадказальнасць вынікаў узаемадзеяння з тканінай. Вядомы беларускі дызайнер **Іван Айплатаў** адзначае прыгажосць, грацыю і стыль кожнай котамадэлі.

Не дзіва, што модны фатограф **Ядвіга Адамчык** ужо не першы год ладзіць фотасэты для жывёл з прытулку: яна ж не толькі кашатніца, але і сама — жанчына-котка: «Люблю сонейка і пяшчоту, а яшчэ лепей — песціцца на сонейку».

Усе каты і коткі, якія ўзялі ўдзел у фотасэсіі, знаходзяцца пад апекай валанцёраў «ЗААшанцу»: кагосьці знайшлі на вуліцы, кагосьці ўратавалі ад смерці, а чыесьці кацінае сардэчка адагрэлі пасля здрады нягеглых гаспадароў.

Прыглядзіцеся да жывёл! Магчыма, паміж вамі шмат больш агульнага, чым вы думалі!

**Дабрачыннае грамадскае аб'яднанне дапамогі бяздомным жывёлам «ЗААшанец» http://zooshans.by**

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81 novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 301

Падпісана да друку 07.03.2014. 8.00. Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.